# ЗЬМЕСТ.




1 Дзяржаўная друкарня. Зак № 832. Галоўлітбел № 22926. У ліку 8.000.

Пролетары ўсіх краёў, злучайцеся!

# ПЛУГ

Месячная навукова-папулярная сельска-гаспадарчая часопісь

II год выданьня Сьнежань 1926 г.



## Да пытаньня аб перасяленьні.

Хто ня чуў, што ў Сібіры і на Далёкім Усходзе сям'я перасяленца ў 5-6 чалавек палучае 25-30 дзес. зямлі? Як ня марыць аб гэтым беларускаму селяніну, калі ён мае 1-2-3 дзес. на гаспадарку? А такіх гаспадарак у нас шмат. Для некаторых гэтыя мары збываліся. Адны сяляне з дазволу, іншыя самавольна, кідаюць Беларусь і пападаюць на зямельныя прасторы Сібіру і Далёкага Ўсходу. І толькі пераехаўшы, яны бачаць, што няма і тут таго шчасьця, аб якім марылі. З сотні перасяленцаў, якія накіроўваюцца цяпер у Сібір і на Далёкі Ўсход,— дзевяноста пяць, калі ня ўсе сто, згадзіліся-б гэтыя 25-30 дзес. праменяць на 5-6 дзес. Беларусі. Чаму гэта так? Пастараемся высьветліць, у чым тут справа. Быў час, шмат год таму назад, калі за Уралам, у Сібіры і на Далёкім Усходзе некрануты стэп і лесастэп давалі перасяленцу магчымасьць выбіраць зямлю на разворваньне. Але пачынаючы з 1896 г. і да вайны расійскі царскі ўрад перакінуў у Сібір каля 5 млн. чалавек і такім чынам найбольш ураджайныя лёгкія для абработкі землі, бадай што ўсе былі пазаняты. Апрача таго ў часе вайны і рэвалюцыі за Урал прайшла не адна сотня тысяч самавольных перасяленцаў. Частка з іх занялі апошнія запасы свабодных зямель, а частка гэтых перасяленцаў—самавольцаў і да гэтага часу застаецца без зямлі. Цяпер новаму перасяленцу прыходзіцца ўжо накіроўвацца ў лес, тайгу, дзе шмат забалочаных зямель, дзе няма дарог, дзе клімат халодны і збожжа гіне часамі ад позных вясеньніх і раньніх асеньніх замаразкаў. Тут кожную дзесяціну зямлі прыходзіцца адваёўваць ад прыроды цяжкай працай з сякерай, пілой і рыдлёўкай у руках. Гадоў 5-8 трэба перасяленцу, каб выкарчаваць і ачысьціць з-пад лесу 3-4 дзес. зямлі. І толькі вельмі мала каму ўдаецца знайці чыстае ад лесу месца, або так званыя «гары», дзе пажар памог перасяленцу асвабадзіць частку зямлі з-пад лесу. Але, каб падрыхтаваць гэту плошчу да пасеву, трэба палажыць шмат працы. Так справа абстаіць у Сібіры. На Далёкім Усходзе ў Амурскай вобласьці і Прыморскай добрыя землі ў лагчынах і па берагох рэк з наноснай ураджайнай глебай даўно ўжо заняты; рэшта-ж зямель, якія па кліматычных і глебавых умовах годны для сельскае гаспадаркі, на 50 проц. (напалавіну) забалочаны і на 70-80 проц. пакрыты лесам.

Праўда, на Далёкім Усходзе ёсьць яшчэ землі поўадкрытыя, поўзалесеныя і заросшыя толькі кустамі, такія землі, якія век плуга ня бачылі, зусім цаліна. Паглядзім, ці лёгка нашаму перасяленцу заўладаць гэтай цалінай. Старому заможнаму гаспадару, бязумоўна, ня так трудна прыхваціць адну, дзьве дзесяціны цаліны, калі старапашкі не хапае. Плуг у яго з сядзеньнем, запражка ў 8 коняй. Сьпераду плуга ідуць два чалавекі, адзін з сякерай, другі з рыдлёўкай, каб працерабіць дарогу плугу, сьсякаючы больш буйныя дрэўцы, часамі падкоп-

ваючы і выкарчоўваючы іх. Пры такім «узбраеньні» хмызьняк з гарэшніка, ёрніка і інш., які выглядае маладым ляском, часта з высокімі бярозкамі, пакорна кладзецца ў баразну, падрэзаны вострым нарогам «дзіраўскага» амэрыканскага плуга. На такую воранку сяляне часта зьбіраюцца, як у паход на лютага ворага, як самі кажуць: «зьбіраем усе інструманты, што знойдуцца на двары». Люба пазіраць на амурскага селяніна, які толькі з такім шырокім размахам у сваім гаспадарчым абыходзе можа здолець такую дзікую непакорную цаліну. Але зусім іншае мы бачым, калі барацьбу з цаліною вядзе беларускі перасяленец, што акурат мы наглядалі гэтым летам. У амэрыканскі плуг «Дзіра», куплены ў старажылаў за трайную цану, які доўга ўжо паслужыў на сваім вяку, які пераўязан вяроўкамі, бо хістаецца,—запрэжана шасьцёра коняй. Коні куплены за розныя цэны ў розных мясцох—у горадзе, на кірмашы, у цыган, у старажылаў з суседніх вёсак. Пры плузе 8 навасельцаў. Шум, гвалт, справа даходзіць да лаянкі, чысты кірмаш, як яны самі кажуць. Вінавацяць адзін другога, што плуг ня добра прымацован, ці што нож у плузе коса сядзіць, альбо што коняй запрагаць ня ўмеюць. Коні блутаюцца ў пастромках, узмылены. Ад крыку і непарадкаў усё ўзбударажана. Гледзячы на такую работу, невядома ці плакаць, ці сьмяяцца. Але перасяленцам не да сьмеху. За коняй плацілі па 175—200 руб., плуг-калека куплен за 95 р., а падняць цаліну нельга. Плуг ледзьве трымаецца, развальваецца. Коні рознастайныя, некаторыя можа нават першы раз у плузе наогул, бо нельга-ж верыць цыгану—спэкулянту ці гандляру—перакупшчыку. «Дык вось гэтакае шматпольле»—цяжка вымавіў стары навасёлец, які, абліваючыся потам, стаяў поруч з намі. Што-ж да разворваньня і апрацоўкі цаліны, то прыходзіцца чуць ад навасёлаў на Амуры шмат скаргі і нараканьняў. «Як ты ня круці, а як быў пласт дзёрну, так пластом і застаўся, нічога з ім ня зробіш»—кажуць яны.

Цяпер павінна быць ясна, чаму Савецкая ўлада, пакуль што, стараецца затрымаць перасяленцаў. Царскаму ўраду было ўсё роўна, у якое становішча трапляў перасяленец. Яму важна было, каб селянін куды-небудзь дзеўся, каб толькі не пазіраў на панскую зямлю. Савецкая ўлада ня хоча кідаць людзей абы-як, а дазваляе перасяляцца толькі такому ліку людзей, для якога за кошт дзяржавы рашчышчаны і падрыхтаваны землі. Усесаюзны перасяленчаскі камітэт, у залежнасьці ад ліку падрыхтаванай зямлі, робіць разьвёрстку па паасобных рэспубліках—колькі з якой рэспублікі сялян можна перасяліць. Вось чаму Наркамзем Беларусі дае дазвол ня ўсім жадаючым перасяліцца. У чым-жа сутнасьць падрыхтоўкі зямлі для перасяленцаў? Абавязкова трэба асушыць забалочаныя прасторы, выкарчаваць лес, правесьці дарогі, пабудаваць хоць-бы часовыя памяшканьні для перасяленцаў, дзе-ні-дзе выкапаць студні, пабудаваць склады для сельска-гаспадарчых машын і прыладаў, пабудаваць хлеба-запасныя магазыны, нават пабудаваць вопытныя станцыі, на якіх вывучаць, як лепш весьці гаспадарку ў розных калёнізаваных раёнах, якое збожжа і калі выгадней сеяць, як лепей падрыхтаваць зямлю да пасеву, якія севазвароты больш выгадна заводзіць перасяленцу і г. д. Апрача таго, праз закалёнізаваныя мясцовасьці трэба праводзіць жалезныя дарогі, бо перасяленец, закінуты ад гораду за сотні вёрст, ня можа нічога ні купіць, ні прадаць і прымушаны жыць, як дзікар. Такая падрыхтоўка патрабуе ад дзяржавы затраты вялікіх сродкаў, што адразу зрабіць нельга. Пры гэтым трэба памятаць, што царскі ўрад пакінуў цяжкую спадчыну. Запасы лепшых зямель былі ўсе скарыстаны, а падрыхтоўкі

зямлі не вялося. Савецкай уладзе прышлося адразу ўзяцца за гэтую важную справу, якая патрабуе шмат мільёнаў рублёў. Перасяліць-жа па магчымасьці большы лік сялян на новыя землі дзяржаве выгадна, бо ў Сібіры і на Далёкім Усходзе ўліўся-б у гаспадарчы зварот большы лік зямель, значыць павялічылася-б пасеўная плошча зямлі СССР, распрацаваліся-б горныя багацьці, якія бяз людзей ляжаць без карысьці, скарысталіся-б лясы, якія цяпер гінуць, а ў Эўропэйскай частцы Саюзу не адчувалася-б такая цесната і ня так шыбка драбнела-б гаспадарка. Апрача цяжкасьці раскарчоўкі і распрацоўкі лясных прастораў на Далёкім Усходзе, перасяленцу трудна яшчэ і таму, што ён пападае ў новыя, незнаёмыя яму ўмовы гаспадараваньня. Незнаёмы з глебаю, няпрывычны да тамашняга клімату, ня ведаючы як абрабляць тую зямлю, як і калі прыбіраць збожжа і касіць—перасяленец адчувае сябе вельмі дрэнна. Тыя спосабы, якімі ён абрабляў зямлю, скажам у Магілеўскай ці Менскай акрузе, і якія ўспрымаліся на працягу сталецьцяў, там не падыходзяць. Затым вось і ня дзіва, што перасяленцы ў тайзе і на цалінных землях на вялікіх зямельных прасторах, пражыўшы там ня менш дзесяці год, маюць пасеў у 2—3 і шмат калі 5 дзесяцін, вядуць нуднае жыцьцё, бачаць пакуту і ня маюць надзеі на палепшаньне свайго палажэньня.

Якія-ж вывады можна зрабіць з гэтага?

Перш за ўсё, папярэджваем самавольца, што ён бярэ на сябе вялікую рызыку, перасяляючыся без дазволу, бо самавольцам ніякія ільготы не даюцца. Дзяржава дапамогі і крэдыту такім перасяленцам не дае. Ехаць-жа на свае сілы і сродкі вельмі небясьпечна. Калі ён там і палучыць зямлю, то такую, якая нікому непатрэбна і з якое без вялікіх грошай нічога ня зробіш. Падругое, перасяленцу трэба зусім адмовіцца ад тэй думкі, што паасобныя сяляне, у адзіночку, на гэтых цалінных залесеных землях Далёкага Ўсходу могуць дасягнуць якіх-небудзь вынікаў. Мы ўжо бачылі, як цяжка разараць і абрабіць цаліну. Ня лепей ваяваць і з лесам, перарабляючы яго на пахаць. Толькі аб'яднанымі сіламі, з моцнай дапамогай з боку дзяржавы, завёўшы буйную гаспадарку, дзе можна ўжываць і карчавальную машыну, і трактар, і самаход, і г. д. можна перамагчы усе тыя труднасьці, якія ставіць дзікая прырода Далёкага Ўсходу перасяленцу-навасёлу на шляху да пабудовы гаспадаркі.

Гэтым летам мы асабіста знаёміліся з тым, як перасяленцам цяжка будаваць свае гаспадаркі на новых мясцох. Прыемна было бачыць бадзёрае кіпучае жыцьцё навасёлаў, аб'яднаных у сельскагаспадарчыя арцелі, бачыць іх за дружнай работай і радавацца разам з імі. У іх па вучастках цаліну рые трактар. Кіруе трактарам член арцелі, абучаны на 3-х месячных трактарных курсах. Сенажаць прыбірае сенакасілка. У іх пры сялібе, пад кіраўніцтвам аграномa, ужо залажаны вопытныя дзялянкі з лубінам, пшаніцай, аўсом, сланечнікам, бабамі і цукровымі буракамі. Ёсьць дзялянкі і з травамі: выкай, люцэрнай, канюшынай, гірсой і цімафейкай.

І цяжка было спатыкацца з бадзяючыміся па аднаму перасяленцамі, пераяджаючымі з аднаго месца на другое. Іх думка—вярнуцца назад, да-дому, на пустое месца. Толькі там, на палёх Далёкага Ўсходу перасяленцы адчуваюць усю сваю бяспомачнасьць у барацьбе з дзікай прыродай. Толькі тут яны разумеюць усю сілу і моц і пязьмерна вялікае значэньне таварыскага аб'яднаньня.

**П. Бойка.**

# Жывёлагадоўля



## Слуцкія коні.

*(З абсьледаваньня конягадоўства ў Слуцкай акр.).*

У сучасны момант, пасьля зробленага абследаваньня коняводзтва ў Слуцк. акр., ёсьць магчымасьць прасачыць, як разьвівалася коняводзтва ў гэтай акрузе і ўявіць сабе тып слуцкіх коняй.

У 3-х раёнах Слуцкай акр.—Слуцкім, Капыльскім і Чырвона-Слабодзкім—было агледжана каля 1000 коняй, з якіх прамерана каля 300 штук.

Трэба лічыць, што Слуцкая акруга ня мела і ня мае ніякіх асаблівых прычын для разьвіцьця спэцыяльна коняводзтва. Яно разьвілося таму, што гэта акруга мае лепшыя на Беларусі сенажаці і больш ураджайную глебу.



Жарабок „Нэгрус" Ахрэма Самусевіча з хут. Сьліва, Слуцк. акр.
Мае 3 гады, 165 см. увышкі.

Наогул, трэба адзначыць, што спэцыяльна коняводзтва на Беларусі разьвілося толькі ў некаторых мясцовасьцях выпадкова, глядзячы на другіх. Бязумоўна, вялікую ролю ў гэтым адыграла карысьць ад конягадоўлі.

Яшчэ да таго часу, як правялі чыгункі, праз Случчыну ішлі 2 гасьцінцы, якія злучаюць Захад з цэнтрам Расіі, па якіх бязупынна ішлі абозы з таварамі. Гэта само сабою спрыяла разьвіцьцю слуцкіх коняй. Апрача таго ў Случчыне было шмат панскіх маёнткаў з тэхнічнымі прадпрыемствамі, для якіх патрэбны былі вялікія плошчы пахаці і якія, бязумоўна, не маглі абыйсьціся бяз добрых коняй. Паны лічылі некарысным самім гадаваць коняй, а куплялі іх у сялян.

Дзеля таго-ж, што мясцовыя сялянскія коні былі дробныя і для запражкі ў цяжкія с.-г. машыны не падыходзілі, то маёнткі трымалі для абгула з сялянскімі маткамі завадзкіх жарабкоў цяжкіх пород. Маёнткі дабіліся таго, што Віленская дзяржаўная завадзкая канюшня з 141 жарабка, якіх яна трымала, мела 101 грузнай пароды. Менскай губ. давалася 49 жарабкоў, з якіх большая палова была таксама грузнай пароды. Жарабкоў гэтых разьбіралі на сталыя абгульныя пункты абшарнікі Радзівіл, Тышкевіч, Чапскі і інш. У Слуцкай акрузе ўплыў на коняводзтва ў Цімкавіцкім і Капыльскім раёнах мелі жарабкі Альдэнбурскай пароды „Нэй“, „Нэгус“, выпісаныя панам Іодка ў 1906 г. Яны далі вельмі буйнае племя сярод сялянскіх коняй. У гэтых-жа раёнах абшарніца Загорская трымала на сталых злучных пунктах Брабансона. З пачатку вайны і пасьля рэвалюцыі прыліў сьвежай крыві гэтых жарабкоў спыніўся. Пачаліся абгулы коняй блізкіх па крыві, што дало новы тып коняй—нешта сярэдняе між Брабансонам і Альдэнбургам, трохі больш падобны да апошняе пароды. У сучасны момант у Случчыне коні дзеляцца на мясцовых палепшаных і мэтысаў Бэльгійскага цяжкавоза. Іншыя пароды сустракаюцца рэдка. Параўнаўчыя сярэднія прамеры гэтых дзьвёх катэгорый асаблівай розьніцы ня маюць. Прамеры ў зьмешчанай ніжэй табліцы ўзяты ў процантах да вышыні холкі.

| | | Вышыня грудзей | Даўжыня тулава | Шырыня грудзей | Глыбіня грудзей | Абхоп грудзей | Абхоп зап. | Абхоп пясьці | Абхоп ск. суст. | Абхоп плюсны |
|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|
| Жарабкі | Мясцов. палепш. | 1 | 100,3 | 26 | 40 | 113 | 22 | 13,7 | — | — |
| | Мэтысты Бэльг. | 1 | 103 | 24,7 | 43 | 123 | 23 | 14 | — | — |
| Маткі | Мясц. палепш. | 1 | 106 | 23 | 43 | 113 | 20 | 13 | 25 | 14 |
| | Мэтысты Бэльг. | 1 | 104 | 23 | 43 | 116 | 20 | 13 | 27 | 15 |

Індэкс грузнасьці слуцкіх коняй таксама займае сярэдняе месца паміж Альдэнбургамі і Брабансонамі, з перавагай у бок Альдэнбурга. У Бэльгійцаў ён 4,; у Альдэнбургаў—3,8; у мясц. палепшаных—3,7; у мэтысаў 3,9. Рост матак хістаецца ад 145 см. да 170, рост жарабкоў ад 152 да 170. Масьць выключна гнедая розных водценяй; з 293 абмераных матак і 53 жарабкоў на гнедую масьць сярод матак прыпадае 58% і сярод жарабкоў 64%. Затым ідзе блізкая да гнедае масьці рыжая, якая дае сярод матак 13% і сярод жарабкоў—13%. Радзей су-

стракаецца варaная, шэрая і чалая масьці. Сяляне для работы ў гаспадарцы трымаюць выключна матак да 20-ці і больш год. Жарабкоў для абгулаў трымаюць да 5—6 год. Плата за абгул бярэцца ад 5 да 10 р., прычым жарабок пакрывае ў сярэднім за год ад 100 да 150 матак. Маладняк у год каштуе да 100 р., да 2-х г. 300 р. Жарабкі даходзяць да 1000 руб.

**С. Дыяконенка.**

---

# Шлях да заводзкай сялянскай малочнай скаціны.

Пры разьвядзеньні малочнай скаціны звычайна ставіцца мэтай вывядзеньне больш-менш значнай колькасьці жывёлы з аднолькавымі адзнакамі, як па надворнаму выгляду і якасьці, так асабліва і па здольнасьцях да высокай прадукцыі малака.

Зусім зразумела, што з гэтай прычыны як маткі, так і бугаі павінны быць пад кантролем і дасьледваны з боку цікавых для нас адзнак.

Малочныя каровы павінны быць дакладна дасьледваны з боку велічыні ўдояў, жырнамалочнасьці, працягу дойнага пэрыоду, аплаты корму і інш.

Бугаі, якія прызначаюцца ў стада ў якасьці племянікоў, павінны быць вядомы па лініі бацькоў, як яны насьледвалі якасьці бацькоў і як гэтыя якасьці перадаюць патомству. Аб усім гэтым даведваюцца па запісах, па надворнаму выгляду і інш.

Зразумела, што ўсім гэтым можна займацца ў вялікіх стадах з добра наладжанай гадоўляй маладняка.

Даўней гэтым маглі займацца памешчыкі (абшарнікі) з сваімі вялікімі стадамі, з іх прасторнымі выпасамі і гатовымі сродкамі, якія яны маглі кідаць на гэту справу. Але памешчыкі мелі на ўвазе толькі свае выгады і вялі гадоўлю бяз сувязі з сялянствам.

З рэвалюцыяй пачалося разьвіцьцё вёскі; цяпер гадоўляй малочнай скаціны займаюцца ўрадавыя ўстановы. І вось усе пераходзяць да перакананьня, што патрэбна, каб і сялянства ўзялося за завадзкую працу, без якой нельга далей разьвівацца. Гэта значыць, што тыя вёскі, якім пашанцавала хутчэй разьвязаць земляўпарадкаваньне, завесьці шматпольле, раней узяцца за гадоўлю, павінны ў першую чаргу ўзяцца за завадзкую працу. Па ініцыятыве Наркамзему і пад уплывам самадзейнасьці насельніцтва, у некаторых мясцовасьцях так ужо і робіцца. Сяляне Самахвалавіцкага раёну прыняліся за чырвоную малочную скаціну, а раскіданыя там-сям маладыя кантрольныя т-вы ў Віцебшчыне, Случчыне, Магілеўшчыне, Меншчыне прыступілі да кантролю і дабору малочных кароў; апрача таго, паасобныя гаспадаркі ў кожнай амаль што вёсцы пасоўваюць гэту працу наперад: хто даглядае добрую карову, хто наладжвае добрае кармленьне і гадоўлю, хто з добрым племянікам далучаецца да справы.

Але пачатак заводзкай працы ляжыць у кантрольных т-вах і асабліва там, дзе ўсё аб'ядналася для гэтага—коопэрацыя, сялянства, саўхозы.

Кожны раён павінен завесьці такое гняздо па разгортваньню найпатрэбнейшай першачарговай працы ў гадоўлі скаціны, бо ўсюды

патрэбны добрыя племянікі, усюды хочуць добрых завадзкіх кароў. Вось чаму кожная вёска павінна мець добрае стада, якое-б паступова папаўнялася добрай жывёлай. Хто ў гэты час мае больш мажлівасьцяй, хто больш можа зрабіць, той хай дасьць першае добрае насеньне, якім мы запоўнім сваю краіну.

На першыя шэрагі кантрольных таварystваў, якіх ўжо маецца да 15, ускладаецца адказная і пачэсная праца. Кантрольным таварыствам дасталася і першая дапамога з урадавых сродкаў на ўтрыманьне спэцыялістых кантралёраў-асыстэнтаў, на крэдыт для організацыі збыту праз маслабойныя заводы і г. д. Кожнае новае таварыства мае ня меншую ўвагу і дапамогу НКЗ, с.-г. коопэрацыі. Узрастаючая сьвядомасьць сялян хутка пачне адыгрываць вялікую ролю ў справе гадоўлі малочных кароў.

Ня будзем гадаць аб будучых пародах скаціны. Парода зьявіцца абавязкова ў выніку разумнае і ўпартае працы, як зьявілася яна ў тых, да каго, не разумеючы справы, кідаліся нашы памешчыкі за пародамі кароў.

Нам патрэбны каровы малочныя, прывыкшыя да на нашых умоў. Лепш паступова даходзіць да свайго малочнага стада, чым пачынаць з дарагога пазычанага і потым давесьці яго да нічога. Што і як рабіць, мы даведаемся ў кантрольных таварыствах. Праца будзе весьціся на віду ўсіх, паказвацца на выстаўках, конкурсах, лепшае будзе сьведчыцца ў завадзкіх кнігах. Грамадзянства будзе ствараць, яно-ж будзе і папаўняць. А рэшта патрэбных карысных зьмен у малочнай гаспадарцы прыдзе да нас з асьветай і адукацыяй. Добрыя выпасы, дастатак кармоў, цёплы хлеў, правільнае кармленьне, завадзкія кнігі, злучныя пункты, маслабойныя і сыраварныя арцелі—усё гэта сродкі нашых дасягненьняў. А над усім гэтым патрэбна завадзкая праца ў кантрольных таварыствах з адборам лепшых матак, з гадоўляй лепшых племянікоў і заводзкага маладняку. Па ліку кантрольных т-ваў, па ліку захопленых іх працай сялян і сялянак мы будзем сачыць, як ствараецца ў нас малочная скаціна, як расьце малочная гаспадарка і нясе дабрабыт у савецкую вёску.

П. Ластоўскі.

---

# Вынікі паказальнага кармленьня кароў у Віцебскай акрузе.

Зімою 1926 году ў Віцебскай акрузе пры сельска-гаспадарчых курсах было праведзена паказальнае кармленьне 44-х кароў у 25-цёх пунктах.

Для гэтага браліся сялянскія каровы. Жывая вага кароў хістаецца ад 16 да 28 пуд. Каровы карміліся па нормах, залежна ад таго, колькі яны важаць, тым кормам, які быў у сялянскай гаспадарцы, толькі макуха прыкуплялася.

Вельмі цікава прасачыць за вынікамі, якія дало гэтае мерапрыемства.

Жывая вага кароў, якіх пачалі карміць па нормах.

| Вага кароў у пуд. . . . . . | 16—20 | 21—24 | 25—28 | Усяго. |
|---|---|---|---|---|
| Лік кароў . . . . . . . . | 17 | 21 | 6 | 44 каровы. |

Як бачым, большасьць кароў мела вагу 21—24 пуды.

Удой кароў да вопыту.

| Удой у фунт. . | 5—10 | 11—15 | 16—20 | 21—25 | Усяго |
|---|---|---|---|---|---|
| Лік кароў . . | 19 | 18 | 4 | 3 | 44 каровы. |

Сярэдні ўдой да вопыту можна лічыць 11—15 ф. у дзень. Амаль столькі кароў давала і самы малы ўдой (5—10 ф.), таксама мала кароў мела і большы ўдой (16—20 ф.).

Удой кароў пасьля вопыту.

| Удой у фунт. | 5—10 | 11—15 | 16—20 | 21—25 | 26—30 | 31—35 | Усяго |
|---|---|---|---|---|---|---|---|
| Лік кароў . | 1 | 8 | 13 | 14 | 3 | 5 | 44 каровы. |

Пасьля вопыту ўсе каровы па свайму ўдою перасоўваюцца ў вышэйшую, большую групу. У першай застаецца толькі адна карова.

Павялічэньне ўдою.

| Прыбаўка ў фунт. . | 2—3 | 4—8 | 9—12 | 13—26 | 17—20 | Усяго |
|---|---|---|---|---|---|---|
| Лік кароў . . . . | 1 | 26 | 11 | 3 | 3 | 44 каровы. |

Разглядаючы апошнюю табліцу трэба зазначыць, што за 2 тыдні паказальнага кармленьня ўсе каровы далі заметнае павялічэньне ўдояў; прычым для большасьці кароў гэта павялічэньне хістаецца ад 7 да 10 фунт., хоць і ёсьць такія каровы, якія павялічылі ўдой толькі да 5 фунт., але-ж былі і такія, якія павялічылі ўдой да 20 ф.

Адно павялічэньне ўдою яшчэ ня сьведчыць аб тым, што скаціну карысна гэтак карміць. Трэба яшчэ даведацца, ці эканомна гэта будзе з гаспадарчага боку, бо можа здарыцца так, што хаця ўдоі кароў і павялічыліся, але нагэтулькі-ж павялічыўся і кошт кармленьня, напрыклад, купля макухі.

Для высьненьня гэтага пакажам параўнальную табліцу прыбыткаў ад кароў пры звычайным сялянскім кармленьні і пры правільным кармленьні па нормах за дасьледчы час. Розьніца ў прыбытку ад ранейшага і паказальнага кармленьня і павінна высьвятліць выгаднасьць правільнага кармленьня сялянскай скаціны па нормах[1]).

Прыбытак ад кароў пры звычайным кармленьні.

| Прыбытак у кап. . | 1—20 | 21—40 | 41—60 | 61—65 | Усяго |
|---|---|---|---|---|---|
| Лік кароў . . . . | 22 | 13 | 3 | 1 | 39 шт. |

Прыбытак ад кароў пры правільным кармленьні.

| Прыбытак у кап. | 1—20 | 21—40 | 41—60 | 61—80 | 81—100 | 101—120 | 121—141 | Усяго |
|---|---|---|---|---|---|---|---|---|
| Лік кароў . . . | 16 | 3 | 9 | 4 | 2 | 1 | 1 | 42 шт. |

Чысты прыбытак пасьля вопыту ў капейках:

| Прыбытак . | 1—10 | 11—20 | 21—30 | 31—40 | 41—50 | 51—60 | 61—70 | 71—80 | Усяго |
|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|
| Лік кароў . | 6 | 9 | 9 | 8 | 2 | 5 | — | 3 | 42 шт. |

[1]) Пры вылічэньні прыбытку ў абодвух разох браўся кошт малака, якое карова дае за суткі, і кошт сутачнага корму, а догляд за каровамі ў абодвух выпадках у разрахунак ня браўся.

Разглядаючы гэтыя табліцы, трэба зазначыць, што правільнае кармленьне па нормах дало ўсё-ж лепшыя вынікі, як звычайнае сялянскае карміленьне, бо з 44-х кароў прыбытак далі 22 каровы, убытак далі 17 кароў, а 5 кароў не далі ні ўбытку, ні даходу. Пры карміленьні па нормах усе каровы, за выключэньнем хворай, далі прыбытак. Калі параўняць прыбытак, які налічылі ў першым і другім выпадку, то ўбачым, што прыбытак у першым выпадку раўняецца 3 р. 46 к., а ў другім—16 р. 20 к. Розьніца на 12 р. 74 к. Калі-ж прыняць пад увагу, што гной у другім выпадку лепшы першага, то выгаднасьць карміленьня па нормах будзе яшчэ больш відавочнай.

П. Гавака.

---

# Макуха, як корм для кароў.

У апошнія часы многа пішуць аб тым, што макуха зьяўляецца надта каштоўным кормам, што Наркамзем Беларусі зрабіў захады, каб запасьці некалькі тысяч пудоў макухі для Беларусі. Бязумоўна, макуха зьяўляецца каштоўным кормам для кароў, але яна бывае розная. Якую каштоўнасьць мае наша беларуская макуха, павінны былі высьветліць нашы зоотэхнічныя дасьледчыя станцыі. Аднак, дасьледчыя станцыі па гэтаму пытаньню нічога ня робяць. У гэтым артыкуле мне хочацца прывесьці некаторыя ўласныя даныя аб хэмічным складзе нашай макухі, аб яе якасьці, а таксама аб яе падрыхтоўцы і скармліваньні каровамі.

На Беларусі сустракаецца галоўным чынам макуха ільняная і канапляная.

Ільняная макуха здабываецца, пераважна, на вялікіх алейных дзяржаўных заводах. Такія заводы ёсьць у Віцебску, Магілеве і Слуцку.

Мне давялося дасьледаваць ільняную макуху з Магілеўскага заводу. Гэта макуха спрасована ў пліткі вагой каля 12 ф. Пліткі сухія, моцныя і маюць сьвежы прыемны пах. Вільгаці яны маюць 10-12 проц. На кармовую адзінку ў параўнаньні з фунтам аўса гэтай макухі трэба 0,8 ф. У гэтай макусе знаходзіцца каля 28-30 проц. лёгка спажыўнага бялку.

У ільнянай макусе вельмі мала сьмецьця і пяску. Макуха зьяўляецца надзвычайна каштоўным кормам. Каштуе ня дорага, у Магілеве 70 к. пуд. Калі яе захоўваць у добра праветрываемым памяшканьні, і калі ня складваць вельмі плотна, то яна можа захоўвацца амаль круглы год. Такой макухі можна даваць каровам да 10 ф. і нават значна больш. Аднак, трэба адзначыць, што прывучаць кароў да макухі трэба паволі, інакш у іх можа быць панос, ад чаго ўдой зьнізіцца.

Пры карміленьні макухаю кароў, яе можна ламаць на асобных машынах, макуха-драбілках. Калі-ж такой машыны няма, то пліткі можна пабіць абухам сякеры да велічыні грэцкага арэха. Можна таксама папырскаць макуху трошкі вадой і палажыць у гарачую печ на кароткі час, пасьля чаго яна становіцца мяккай і лёгка ломіцца ў руках. Добра даваць макуху і ў абмешцы мякіны, бульбы ці іншага корму. Часамі даюць яе і як пойла. Ад такой макухі каровы даюць больш малака і якасьць яго не пагоршыцца. Ільняную макуху алейных заводаў можна раіць і для нашых сялян бяз усякай апаскі.

Зусім іншая справа з макухай канаплянай саматужнага мясцовага вырабу.

Мною была прааналізована макуха мястэчак Шэмава, Верашчакі, Напраснаўкі, г. Горак і інш.

Канапляная макуха прадаецца ў вялікіх плітках каля 1-1$^3/_4$ пуда. Гэта макуха мае вільгаці ад 17 да 29 проц. Такой канаплянай макухі саматужнага вырабу патрэбна на 1 кармовую адзінку ад 1,4 да 1,6 ф. Лёгка спажыўнага бялку ў ёй каля 20 проц. Калі гэту макуху раўняць з аўсом, то яна ў 1$^1/_2$ разы мае меншую сытнасьць. Акрамя гэтага, канапляная макуха захоўваецца вельмі дрэнна. Пры нашых досьледах пры цяплыне каля 10° С. такая макуха ў 3 дні плесьнела і праз тыдзень станавілася зусім белай ад плесені. Праўда, зімою канапляная макуха пры марозах можа захоўвацца да месяцу.

Скармліваць каровам канапляную макуху можна толькі сьвежую.

Пры куплі такой макухі трэба зьвяртаць увагу на тое, каб яна ня была гнілая і прыпаленая, а потым узяць кавалак пліткі і ўкінуць у шклянку з вадой. Сьвежая добрая макуха зараз-жа пачынае раскладацца і муціць ваду. Калі макуха дрэнная, то яна ў вадзе будзе цэлай.

Вельмі часта гнілую плесьневелую макуху на заводах награваюць у гарачай вадзе і прасушваюць. Па надворнаму выгляду такая макуха здаецца зусім сьвежай, але яна горкая і з тухлым пахам. Пры скармліваньні гнілой макухі, ужо 2 ф. яе робяць малако горкім, з пахам гнілой макухі. На гэта скардзяцца ўсе гаспадары і пакупцы малака.

Скармліваць карове сьвежай канаплянай макухі можна ня больш 3-4 ф. Гнілую макуху зусім ня трэба даваць жывёле. Пераход ад меншай колькасьці яе да большай трэба рабіць паступова, з вялікай асьцярогай, інакш у кароў можа быць панос і інш. хваробы.

Канапляную макуху можна задаваць каровам адну ці ў мешанцы з высеўкамі, караньплодамі, мякінай і інш. Макуха саматужнага вырабу крышыцца вельмі лёгка ад абуха сякеры, зачым яе няма сэнсу ні парыць, ні прапушчаць праз макуха-драбілку.

Наогул, пры куплі макухі трэба вылічыць, у чым кармовая адзінка каштуе дзешавей—у макусе, высеўках ці зярнятах аўса. Той корм, які карысьней купіць не па вазе, а па ўтрыманьню ў ім колькасьці кармовых адзінак, трэба і купляць. Так, напрыклад, у Магілеве пуд макухі цяпер каштуе 85 кап., а з перавозкай у Горкі 1 р. Канапляная макуха ў Горках каштуе 70 кап. пуд. Зразумела, што карысьней купляць ільняную макуху ў Магілеве, бо яна амаль удвайне сытней канаплянай.

С.-г. Акадэмія, Горкі. **С. Журык.**

# Як даглядаць зімою авечкі.

*(З практыкі).*

Сяляне ў большасьці так кормяць авечкі: бяруць мурожнае сена, страсаюць яго з яравою саломай і кідаюць у куток альбо за драбіну, якая вісіць пры сьцяне. Такі спосаб кармленьня патрабуе шмат сена, а часта і шкодзіць авечкам, напрыклад, ядучы з-за драбіны яны часта запарушваюць сабе вочы. Калі-ж корм кідаецца ў куток, авечкі топчуць яго і стаяць галоднымі.

Я хачу пазнаёміць чытачоў „Плуга“, як карміць авечак, каб корму ішло менш і каб авечкі заставаліся з вачыма. Зрабіць гэта вельмі проста. Бяруць дошкі і робяць кармушкі вышынёю 5½ вярш. і шырынёю 9 вярш., а даўжыня па ліку авечак. Даюць корм у гэтых кармушках. Авечкам трэба даваць толькі мурожнае сена, па 2½ фунт. ураньні і ўвечары. Паіць авечак трэба таксама два разы ў дзень, а падсьцілаць кожны дзень.

Кармленьне з кармушак дае шмат выгад, і таму я раю зрабіць гэта кожнаму гаспадару.

Сел. С. Сялюкін.

---

# Як самому зрабіць кармушку.

Сёлета ўлетку мне давялося атрымаць у райбібліотэцы кніжку праф. А. Баўнэра „Крестьянское хозяйство“, якую я прачытаў з вялікай ахвотай.

Шмат чаму можна навучыцца з гэтай кніжкі, але цікавей усяго там пішацца аб пабудове дацкай кармушкі. Прачытаўшы, як зрабіць кармушку, я па малюнках і чарцяжох, якія былі ў кнізе, хутка зрабіў двухмясцовую кармушку.

Рабіў кармушку я так: з цэлых дошчак зьбіў цьвікамі скрынку ў 7 арш. даўжыні, 15 вярш. шырыні і такой жа вышыні: на дне скрынка вяршкі на тры вузей, чым уверсе; скрынка падзяляецца перагародкамі на чатыры часткі, так што на кожную галаву прыпадае 1 аршын і 12 вярш. Калі хлеў прасторны, то лепш скрынку ўстанавіць на аршын ад сьцяны. Тады застаецца праход для задачы корму і ачысткі кармушкі.

Бывае, што ў кармушках знаходзіцца вільготны корм, і калі яго ня вычышчаць, дык ён закісае і псуе другі корм. Пры кармленьні кароў сілосам, кармушку трэба мыць раз у 2 дні.

Асабліва добра мыць кармушку растворам вапны, а пасьля чыстай вадой. Калі каровы кормяцца сілосам, то такое мыцьцё неабходна.

Сьпераду скрынкі на самым верхнім яе рабры, ставіцца драўляная рашотка. Пры гэтым рашотка становіцца так, каб галава каровы, прасунутая ў яе, знаходзілася як раз пасярэдзіне кармушкі. У гэтым месцы брускі звужаны на 5 вярш., а ўверсе на 9. Вышыня рашоткі між верхнім і ніжнім бруском 1 арш. У такіх кармушках каровы павінны прывязвацца каротка.

Пры кармушках корм дарэмна ня гіне, бо ён пад ногі не пападае.

Сяляне, рабеце самі кармушкі, гэтым вы зьнішчыце бяскорміцу! [1])

---

[1]) Аграномы БССР раяць трохі адменны тып кармушкі, які лёгка перастаўляць з аднаго месца ў другое. (Гл. „Плуг“ № 9).

Сел. Сялюкін.

# ПАЛЯВАЯ ГАСПАДАРКА

## Да пытаньня аб насеньні кораньплодаў.

Кармовыя кораньплоды пачалі займаць адно з пачэсных месц у вырашэньні кармовага пытаньня ў Беларусі. Засевы кармовых кораньплодаў займаюць усё большыя і большыя плошчы на сялянскіх гародах, а ў некаторых раёнах, напрыклад, у Койданаўскім і Вузьдзенскім, можна часта ўбачыць кораньплоды і на палёх. У параўнаньні з мінулым годам засевы кораньплодаў павялічыліся ў гэтым годзе прыблізна ў 4-5 разоў. Пры гэтым, бягучы год паказаў, што посьпех разьвіцьця і замацаваньня засеваў кораньплодаў у значнай меры залежыць ад запасу добраякаснага насеньня. Забясьпечаньне сялянства добраякасным насеньнем у патрэбнай колькасьці і па даступных цэнах для сялян, можа быць наладжана толькі шляхам плянавай організацыі, масавай вытворчасьці насеньня кармовых кораньплодаў у нас на мясцох. Да гэтага часу насеньне кармовых кораньплодаў у нас было прывазное.

У большасьці яно было ня вельмі высокай якасьці. Каля палавіны ўсяго насеньня буракоў, якое прадавалася ў гэтым годзе, мела ўсхожасьць ня больш, як на 10 проц. Акрамя таго, былі выпадкі, калі замест аднаго сорту прадаваўся другі, нават замест кармовых прадаваліся сталовыя буракі.

Некаторыя прывазныя сарты кораньплодаў ня зусім падыходзяць да нашых глебавых і кліматычных умоў.

Сартаваньне насеньня амаль ніколі не практыкавалася, дзякуючы чаму разам з добрым насеньнем сялянам прадавалася шмат дробнага непатрэбнага насеньня, альбо і зусім сьмецьця.

Назіраньнем устаноўлена, што некаторыя сарты буракоў, асабліва „Эккендорфскія", часта прападаюць ад грыбных хвароб. Як відаць, да гэтага часу ніхто ніякай барацьбы з гэтай хваробай ня вёў.

Але самая большая бяда ў тым, што кожную вясну ў нас не хапае насеньня тых ці іншых кармовых кораньплодаў, альбо і ўсіх разам, як гэта было ўвесну 1926 г., дзякуючы чаму прыватныя гандляры падымалі цэны на насеньне і сялянства шмат пераплачвала за свае агрыкультурныя пачынаньні, а ўрэшце і ў прыватных гандляроў ня было ніякага насеньня і сяляне толькі пыталі, дзе можна купіць насеньня кармовых кораньплодаў, але ім ніхто ня мог адказаць.

Зразумела, што з кожным годам засевы карм. кораньплодаў будуць павялічвацца і патрэбнасьць у насеньні будзе ўзрастаць усё больш і больш. Калі мы возьмем у сярэднім 5.000 сялянскіх гаспадарак у раёне, то трэба думаць, што ў наступным годзе 20% гэтых гаспадарак пасеюць кораньплоды, што дасьць 1.000 двароў. Прымаючы пад увагу, што на кожны двор у сярэднім патрэбна па два фунты

living розпага насеньня на плошчу 100 кв. саж., то на 1.000 двароў у 1927 г. будзе патрэбна 50 пуд., на плошчу прыблізна ў 42 дзес. Пры павялічэньні засеваў карм. караньплодаў кожны год у 2 разы, патрэбнасьць у насеньні на бліжэйшыя гады будзе прыблізна такая:

| Гады | Гаспадарак з караньплодамі | Плошча пад караньплодамі | Патрэбна будзе насеньня ў пуд. | Патрэбная плошча пад насеньнікі |
|---|---|---|---|---|
| 1926 | 500 | 21 | — | — |
| 1927 | 1000 | 42 | 50 | 2 дз. |
| 1928 | 2000 | 84 | 100 | 4 „ |
| 1929 | 4000 | 168 | 200 | 8 „ |

З гэтай табліцы відаць, што каб не затрымоўваць пашырэньня караньплодаў, патрэбна будзе ўжо ў 27 г. прыблізна 50 п. насеньня на раён. Зразумела, што недахоп насеньня можа быць часткаю заменен сваім сялянскім насеньнем, але тут трэба адзначыць, што сялянскае насеньне па сваёй якасьці зусім дрэннае і мае нізкую ўраджайнасьць. Высадкі на сялянскіх гародах растуць разам, у адным месцы, і праз скрыжаванае апылкаваньне розныя сарты караньплодаў зьмешваюцца і насеньне з іх выходзіць зусім не такое, з якога караня яны вырасьлі. У гэтым шмат ужо сялян перакаваліся.

Трэба адзначыць, што да гэтага часу не праводзілася амаль ніякая праца па досьледах ураджайнасьці карм. караньплодаў, а калі дзе і праводзілася, то яна не вядома ня толькі сялянам, а нават і раённым агранамічным працаўнікам. Між тым ураджайнасьць карм. караньплодаў асабліва важна, бо толькі высокімі ўраджаямі можна аплаціць патрачаную працу на іх, зацікавіць сялян і палажыць пачатак кармовага дабрабыту ў сялянскіх гаспадарках.

Пасеў кармовых караньплодаў на насеньне, апрача вялікага агрыкультурнага значэньня, можа даць значны эканамічны даход. 1 дзесяціна насеньнікаў кармовых буракоў пры сярэднім ураджаі можа даць 60 пуд. насеньня. Лічачы па 16 руб. пуд насеньня буракоў, дзесяціна можа даць даходу да 960 руб. Амаль ня 1.000 руб. дзесяціна можа даць пад рэдкай расьлінай.

Вельмі пажадана, каб у далейшым, пытаньню караньплоднага насеньняводзтва было больш увагі, як з боку ўлады і грамадзкіх арганізацый, так і з боку кожнага селяніна—гаспадара. Кожны селянін павінен добра памятаць прыказку; „толькі ад добрага насеньня можна атрымаць і добрае племя“, і тады не прападзе дарэмна яго праца і грошы.

Чарговымі задачамі ў галіне насеньняводзтва караньплодаў павінна быць:

1. Організацыя раённых насеньнікаў караньплодаў пад кіраўніцтвам аграномаў ці інструктароў гародніцтва.

2. Асыгнаваньне па каштарысах дзеля гэтага належных сум і пашырэньне доўгатэрміновага крэдыту на гэту справу.

3. Абсьледваньне сучасных насеньнікаў карм. караньплодаў для ўстанаўленьня чыстасортнасьці і якасьці насеньня і выяўленьня яго колькасьці.

4. Барацьба з прадажай невядомага і нядобраякаснага насеньня.

5. Праца дасьледчых станцый НКЗ па апрабаваньні ўраджайнасьці карм. караньплодаў.

6. Найшырэйшае распаўсюджваньне ведаў сярод насельніцтва па культуры насеньнікаў кармовых караньплодаў[1]).

Агр. **П. Ляневіч.**

---

# Суданская трава.

*(Andropoqon Sorqum Sudanensis).*

Кармовае пытаньне ў нас знаходзіцца настолькі ў кепскім стане, што сяляне, нават найбольш багатых раёнаў, прымушаны марыць голадам сваю скаціну ў працягу цэлае зімы. Бываюць такія факты, калі сяляне вясною зьдзіраюць з стрэх салому, рэжуць яе на сечку і кормяць скаціну. Наогул, каб сельская гаспадарка магла разгарнуцца, трэба ў севазварот уводзіць найбольш падыходзячыя і ўраджайныя кармовыя расьліны. У нас бульба зьяўляецца, бадай, адзінай расьлінай, якая ратуе селяніна і яго жывёлу ад голаду. Канюшына і цімафейка іншы раз даюць добрыя ўраджаі, але бываюць вельмі засьмечаны (часта на 50 проц., а то і болей)球 рознымі шкоднымі травамі. Загэтым патрэбна шукаць новых расьлін, якія былі-б выгадны ў нашых умовах.

У нас яшчэ няма пэўных даных, але ёсьць падстава думаць, што такой выгаднай расьлінай павінна быць суданская трава. Гэта трава была прывезена на Украіну ў 1915 г. Кацярынаслаўскай дасьледчай станцыяй з Амэрыкі. У Амэрыку яе прывязьлі ў 1909 г., у колькасьці аднаго фунта, з Афрыкі[2]), а цяпер суданская трава пашырана ўжо вельмі значна на УССР, у Крыму, Данецкай, Кубанскай, Тэрскай вобласьцях; Сімбірскай, Уральскай і др. губ. і вобл.

На дасьледчых станцыях у БССР таксама былі выпадкі ці пробы пасеву суданскае травы, толькі, нажаль, вынікі досьледу ня былі надрукаваны і таму для шырокай грамадзкай думкі суданка невядома і невядома якія яна дала вынікі ў нашых умовах.

Мне ў гэтым годзе давялося пасеяць іназіраць за суданкай у колектыўным выхавальніку Беларускага аддзяленьня Ўсесаюзнага Інстытуту прыкладное батанікі і новых культур (суглінкі).

Вясною (20/V) мною было пасеяна восем абразцоў суданскае травы на дзьвёх мэтравых дзялянках. Пасеў быў радковы; адлегласьць аднаго радка ад другога—20 см.; усходы былі прарэджаны так, каб адна расьліна ад другой была на адлегласьці 1 вярш. Поле—аўсянішча на гнаі (1.200 п. на дзес.). Назіраньні вяліся за кожным кустом на

---

[1]) Пытаньне пашырэньня пасеву караньплодаў з'яўляецца цяпер адным з найбольш жывых і цікавых пытаньняў у працы агранома і сялян-практыкаў. Артыкул агранома Ляневіча рэдакцыя лічыць зусім на часе і просіць сялян дасьледчыкаў, вучастковых аграномаў і дасьледчыя станцыі даць яшчэ некалькі артыкулаў. (Рэд.).

[2]) В. і В. Таланавы—Суданка. Дзярж. Выд., Масква, 1925 г.

дзялянцы і за дзялянкамі наогул, а з пачатку поўнага красаваньня суданка была скошана і дала такія вынікі:

| Чарг. №№ | №№ адзелу лугав. Ус. Інст. пр. б. і Н. К. | НАЗВА РАСЬЛІН І МЕСЦА Х ПАХАДЖЭНЬНЯ | Вегетац. пэрыод | | Ураджай | | | |
|---|---|---|---|---|---|---|---|---|
| | | | | | З 1-го мэтр. | | З 1-го гэкт. | |
| | | | Час засеву | Час поўнага красаваньня | Сырой масы | Сена | Сырой масы | Сена |
| 1. | 3518 | Судан. трава, Палтаўск. с.-г. дасл. стан. Andropoqou Sorqum Sudanensis . . . . | 5-IV | 18-VIII | 474 гр. | 150 гр. | 4740 к. | 1500 к. |
| 2. | 3323 | Судан. трава, Марусінск. ст. . . | 6-IV | 20-VIII | 490 „ | 159 „ | 4900 „ | 1500 „ |
| 3. | 590 | Судан. трава, U. S. A. Huntsville. Alabama | „ | 22-VIII | 414 „ | 115 „ | 4140 „ | 1150 „ |
| 4. | 1850 | Судан. трава Ростово-Нахічэв. н/Д обл. ст. | 5-IV | 16-VIII | 963 „ | 289 „ | 9630 „ | 2890 „ |
| 5. | 669 | Судн. трава, U. S. A. Zincou, Nebrasca . | „ | 20-VIII | 295 „ | 81 „ | 2950 „ | 810 „ |
| 6. | 559 | Судн. трава, U. S. A. Sankton Suk Dacora | „ | „ | 303 „ | 99 „ | 3030 „ | 990 „ |
| 7. | 569 | Судн. трава, Канада . | „ | „ | 826 „ | 215 „ | 8260 „ | 2150 „ |
| 8. | — | Судн. трава, Орыгінальная амэрыканск. . | „ | „ | 930 „ | 250 „ | 9300 „ | 2500 „ |

З гэтае табліцы відаць, наколькі вялікая розьніца ва ўраджайнасьці розных абразцоў, ня гледзячы на тое, што ўсе дзялянкі былі ў аднолькавых глебавых і ўсіх іншых умовах. Абразцы № 4 і № 8 разьвіваліся буйна, аблісьцьвенасьць іх была высокая, і ў той-жа час абразцы № 5 і 6 адчувалі сябе вельмі дрэнна, што сказалася і на ўраджайнасьці. Па вегетацыйнаму пэрыоду абразец № 4 аказаўся найранейшым з усіх іншых. Ён пасьпеў у сярэднім на 5 дзён раней.

На аснове гэтых даных трудна станоўча раіць пасеў суданкі; толькі мне здаецца, што калі параўнаць яе з цімафейкай, якая значна пашырана ў нашых гаспадарках і дае нявысокі ўраджай ня зусім добрага сена, то ясна, што суданка мае перавагу над цімафейкай. Мае даныя аднаго ўкосу, пры чым я зусім ня прыводжу даных укосаў атавы, які іншы раз бывае ня меншы першага ўкосу.

Суданская трава дае добрай якасьці сена, аблісьцьвенасьць яе вельмі высокая, кусьціцца надзвычайна буйна. На дасьледчым полі Варонежскага с.-г. Інстытуту кусьцістасьць атавы дасягла 67 сьцяблоў з аднаго караня. З прычыны таго, што суданка—расьліна аднагадовая, яна вельмі лёгка можа быць прыстасавана да ўсякага севазвароту; яна не пераборлівая на грунт, толькі ўсходы яе вельмі баяцца засьмечанасьці, што пры пасеве суданкі трэба мець на ўвазе. Сеяць суданку можна пасьля асыпных, азімых і нават ярыны.

Зямля пад суданскую траву павінна быць заворана з восені, вясною прабаранавана. Можна араць і раньняю вясною, але пажадана апрацоўка такая, якая-б памагла ачышчэньню поля ад сарнякоў. Сеяць суданку трэба тады, калі зямля досыць сагрэецца. У халоднай зямлі насеньне можа загінуць, а калі і ўзойдзе, то рост травы будзе марудны і травастой дрэнны. На дзесяціну насеньня суданскае травы трэба 30 ф. Яго можна выпісаць з Харкава (Усеўкраінскае т-ва насеньняводзтва) і іншых месц.

**А. Дземідовіч.**

# СЯЛЯНСКІ ДОСЬЛЕД

## Досьлед з лубінам.

У № 5 часопісі „Плуг“ за гэты год я абяцаўся падзяліцца з чытачамі сваім досьледам лубінавага ўгнаеньня пад жыта. Цяпер, калі жыта зжата і абмалочана, я магу напісаць аб выніках досьледу і аб тым, як рабіўся самы досьлед.

У пачатку траўня 1925 г. я з свайго папару аддзяліў чатыры палоскі зямлі. Кожная палоска ўдоўжкі 20 саж. і ўшыркі 8 саж.—гэта будзе па 160 кв. саж. Глеба на ўсіх чатырох палосках аднолькавая—пескавая, са схілам на поўдзень.

На адну палоску я вывез 7-га траўня 5 вазоў добрага кароўяга гною, прыблізна па 25 пудоў у кожным возе. Калі гэта пералічыць на дзес., то будзе каля 1800 пудоў. 8 траўня я раскідаў гной і ўзараў усе чатыры палоскі. 12-га траўня я на адну няўгноеную палоску расьсеяў рукамі 1 п. насеньня лубіну, а на другую такую-ж палоску расьсеяў 1 п. лубіну і 1$^1/_2$ пуды тамасаўкі. Усе чатыры палоскі я разам забаранаваў простаю драўлянаю бараною з жалезнымі зубамі. Такім чынам, у мяне была адна палоска без угнаеньня з раньнім чорным папарам, другая—угноены чорны папар, трэцяя—з лубінам на ўгнаеньне і чацьвертая—лубін на ўгнаеньне з дадачай тамасаўкі.

Летам пасьля дажджоў незасеяныя дзьве палоскі я два разы баранаваў яшчэ, каб разьбіць скарынку і зьнішчыць сарнякі.

Калі рос лубін, то адразу кідалася ў вочы, што лубін з тамасаўкай расьце лепш. Ён быў зялёны і на поўаршына вышэй.

К 15-му жніўня лубін адкрасаваў і меў ужо зялёныя струкі. Лубін на пустой палосцы быў ростам каля аршына, а з тамасаўкай быў многа вышэй.

Заворваў лубін я гэтак: браў вяроўку ў 1 саж.; адзін канец вяроўкі прымацаваў да дышля плуга блізка каля паліцы, а другі канец—пасярод „ворчыка“, за які чапляюць гужы. Пасярод вяроўкі прывязаў камень фунтаў 7-9. Камень валокся па баразьне і цягнуў уніз вяроўку, а вяроўка прыпінала да самай зямлі лубін удоўж баразны. Нарог падразаў лубін з зямлёю, а паліца пераворочвала яго ў баразну і добра засыпала.

Калі-ж я так заараў лубін, то мой сусед—хутаранін дзівіўся, што заарана так добра. „Нават зусім нельга сказаць, што тут быў лубін“,—так казаў ён.

У адзін дзень былі ўзараны ў другі раз і палоскі з чорным папарам.

Жыта было пасеяна 5-га верасьня рукамі на ўсіх чатырох палосках і забаранавана. Рунь была вельмі добрая. Жывёлы ўвосень на рунь ня пускаў. Думалася, што жыта маё будзе найлепшае, але дзякуючы сьнежнай зіме і познай вясьне, жыта пад тоўстым пластом сьнегу крыху падапрэла і было рэдкае.

Калі растаў сьнег і крыху прасохла глеба, я добра прабаранаваў сваё жыта, і яно пачало кусьціцца. Лепш за ўсё расло жыта на лубіне з тамасаўкай, а на гнаі і на чыстым лубіне было аднолькавае. На пустой дзялянцы жыта расло слабавата.

Зжатае жыта я малаціў паасобку з кожнай дзялянкі і атрымаў прыблізна вось якія вынікі:

| Дзялянкі. | Зярна | | Саломы | |
|---|---|---|---|---|
| | З палоскі | На дзес. | З палоскі | На дзес. |
| Палоска няўгноеная . . . | 2 п. 7 ф. | 32 п. 25 ф. | 6 п. 4 ф. | 91 п. 20 ф. |
| „ з гноем . . . . | 4 „ 5 „ | 61 „ 35 „ | 12 „ — | 180 „ — |
| „ з лубінам . . . | 3 „ 35 „ | 58 „ 5 „ | 12 „ — | 180 „ — |
| „ з лубінам і тамасаўкай . . . . . . . . | 15 „ 13 „ | 79 „ 35 „ | 14 „ — | 210 „ — |

З майго досьледу відаць, што зямля сама сказала, як рабіць селяніну, калі ў гаспадарцы недахватка гною.

Некаторыя з суседзяў-пасялкоўцаў, гледзячы на мой досьлед, сеялі сёлета лубін у папары і заарали яго пад жыта.

Сейце, сяляне, лубін у папары і купляйце ў крэдытовых таварыствах штучныя ўгнаеньні. За гэта вам глеба шчыра аддзякуе і вы забудзеце бяду.

Л. Чалоўскі.

(Сяло Пячары, Калінін. акр. Касьцюковіцкага р.)

# Мой вопыт з мінэральным угнаеньнем пад ячмень.

Сёлета я залажыў паказальны вучастак з мінэральным угнаеньнем пад ячмень.

Дзеля гэтага я кавалак зямлі разьбіў на 10 дзялянак (па 30 кв. с.)

| | | | | |
|---|---|---|---|---|
| Дзялянка № 1 Кантрольная (на гнаі) | Дзялянка № 2 Супэрфосфат (9 фунт.) | Дзялянка № 3 Тамасаўка (12 фунт.) | Дзялянка № 4 Супэрфосфат (12 фунт.) | Дзялянка № 5 Тамасаўка (15 фунт.) |

Абараняючая паласа.

| | | | | |
|---|---|---|---|---|
| Дзялянка № 10 Тамасаўка (15 фунт.) | Дзялянка № 9 Супэрфосфат (12 фунт. | Дзялянка № 8 Тамасаўка (12 фунт.) | Дзялянка № 7 Супэрфосфат (9 фунт.) | Дзялянка № 6 Кантрольная (на гнаі) |

Глеба супескавая, мае ўхіл на захад. Пасеў быў зроблен аднačасова на ўсіх дзялянках і заскароджан.

Супэрфосфат быў унесен за тыдзень да пасеву, а тамасаўка за 3 дні. Вынікі такія:

| №№ ДЗЯЛЯНАК | Ураджай дзялянкі | | | | Ураджай на дзесяціну | | | |
|---|---|---|---|---|---|---|---|---|
| | Зярна | | Саломы | | Зярна | | Саломы | |
| | Пуд. | Ф. | Пуд. | Ф. | Пуд. | Ф. | Пуд. | ф. |
| 1. На гнаі . . . . . . | 1 | 0,5 | 1 | 35 | 90 | — | 150 | — |
| 2. Супэрфосфару 9 ф . | 2 | 2,5 | 1 | 27,5 | 1,72 | — | 135 | — |
| 3. Тамасаўкі . . 12 „ . | 2 | 10 | 2 | 80 | 180 | — | 180 | — |
| 4. Супэрфосфату 12 „ . | 1 | 20 | 1 | 27,5 | 120 | — | 135 | — |
| 5. Тамасаўкі . . 15 „ . | 1 | 35 | 1 | 35 | 150 | — | 150 | — |
| 6. На гнаі . . . . . | — | 30 | 1 | 12,5 | 60 | — | 102,5 | — |
| 7. Супэрфосфату 9 „ . | 1 | 27,5 | 1 | 12,5 | 135 | — | 102,5 | — |
| 8. Тамасаўкі . . 12 „ . | 1 | 27.5 | 1 | 20 | 135 | — | 120 | — |
| 9. Супэрфосфату 12 „ . | 1 | 15 | 1 | 12,5 | 90 | — | 102.5 | — |
| 10. Тамасаўкі. . 15 „ . | — | 22,5 | — | 30 | 45 | — | 60 | — |

Увесь ячмень я важыў з кв. саж. і, як відаць, тамасаўка лепш праявіла сябе, чым супэрфосфат, у адным выпадку, а у другім супэрфосфат лепш тамасаўкі. Усё гэта залежыць ад таго, што лета было сухое, дзялян. № 3, 5 і 8 знаходзіліся ў лагчыне, дзе ім было больш вільгаці, а ў другім выпадку, што супэрфосфат быў пасеян раней і лепей скарыстан расьлінамі.

Дзялянка № 10, на якой было пасеяна 15 фунт. тамасаўкі, знаходзілася на адным узроўне з дзялянкамі на гнаі, на самай высокай глебе, дзякуючы чаму, ячмень ня ўсходзіў каля трох тыдняў і ўраджай даў на палавіну меншы, чым дзялянка з гноем, а саломы менш у $2^1/_2$ разы. На гэтай дзялянцы не хапіла вільгаці, каб тамасаўка растварылася. Акрамя таго, ён амаль на палавіну згарэў на сонцы.

Дзялянка № 5, дзе таксама было пасеяна 15 фунт. тамасаўкі, дала ўраджай у $3^1/_2$ разы больш зярна і ў $2^1/_2$ разы саломы, бо яна знаходзілася ў больш спрыяючых умовах, у лагчыне, і больш на поўнач.

Дзялянка № 1 кантрольная, дала ўраджай зярна ў $3^1/_2$ разы болей, чым другая кантрольная № 6, ня гледзячы на тое, што першая была вышэй апошняй.

Тут мой вопыт трохі ня ўдаўся, бо дз. № 6 была паедзена і здратавана канём.

Аднак відаць, што супэрфосфат і тамасаўка сваё ўзялі, ды яшчэ вопыт папаў пад засушлівы год, а то вынік быў-бы яшчэ лепшы.

Дзеля яснасьці я вось як прывяду вынікі ўгнаеньня:

Контр. дзял. №№ 1 і 6 далі на дзесяціну . 75 пуд.
Супэрфос. 9 ф. „ 2 і 7 „ „ „ . . 120 „
„ 12 „ „ 4 і 9 „ „ „ . . 105 „
Тамасаўка 12 „ „ 3 і 18 „ „ „ . . $127^1/_2$ п.
„ 15 „ „ 5 і 10 „ „ „ . . $97^1/_2$ „

Дзялянкі №№ 1 і 7, у пераводзе на дзесяціну, былі ўгноены супэрфосфатам у колькасьці 18 п. а далі меншы ўраджай, як дз. №№ 4 і 9, на якія было паложана на дзесяціну 24 пуд. тамасаўкі. Тут было менш вільгаці. Таксама і з тамасаўкай. Меншая колькасьць парашкоў дала большы ўраджай. Вось тыя вынікі, якія атрымаў я пры вопыце з ячменем.

Праўда, марудна і цяжка вылічыць усе лічбы, але ахвота ўбачыць вынікі, высьветліць, чаму і якая розьніца на ўраджаі.

Увесь досьлед у мяне запісан у сшытак.

Сеяў ячмень на бульбянішчы, на гнаі. Першы раз узараў 10-га мая драўляным плугам аднячасова ўсе дзялянкі, на глыбіню 3 вяршкоў.

Скарадзіў 13-га мая драўлянай бараной; ячмень пасеяў 29-га мая, таксама аднячасова ўсе дзялянкі.

**Сел. С. Сялюкін.**

(Лёхава, Межанскага р., Віцебшчына).

---

# Вопыт з торфам у пасадцы бульбы.

У мінулым годзе я накапаў торфу і да вясны пакінуў яго на марозе. Вясною пры пасадцы бульбы я зрабіў спробу—пасеяў бульбу пры угнаеньні поля торфам. Адмерыў 6 кв. саж., узараў на глыбіню 3 вярш., намеціў радкі на адлегласьці 1 арш., а ў радкох па 8 вярш. Ямкі прабіваў матыкай, садзіў бульбіны сярэдняй вялічыні, нярэзаныя. Потым разьдзяліў вучастак на тры такія часткі, каб вышла роўна па 2 кв. саж. і на першыя два сажні палажыў 2 пуд. прасохшага зімняга торфу, на другія 2 саж. кароўяга сьвежага гною, а на трэція 2 саж. 2 фун. супэрфосфату, і прысыпаў зямлёю. Пасадку рабіў 18-га траўня. Сорт бульбы быў „сілезя“.

Далей апрацоўка была ручная, матыкаю. Усё лета, бульбоўнік быў зялёны і роўны на ўсіх трох вучастках. Я прыводзіў суседзяў і паказваў—і ніхто ня мог нічога адрозьніць. Пры апісаньні маёй гаспадаркі я паказваў аграному гэтыя вучасткі і па бульбоўніку нічога нельга было пазнаць, бо ён быў сярэдняй велічыні на ўсіх 3-х дзялянках. А ў верасьні і па бульбоўніку можна было пазнаць розьніцу на ўраджаі бульбы. Адрозьнівалася яна тым, што па супэрфосфату бульбоўнік пажоўк, на гнаі толькі чуць пачаў жоўкнуць, а па торфу быў самы зелянейшы.

6-га верасьня я сеяў прысланую „Плугам“ пшаніцу і суседзі прышлі цікавіцца маёй працай. Тады я павёў іх і паказаў вопыт з торфам, дзе яны ўжо сказалі, што па торфу будзе лепшая бульба. 5-га кастрычніка я выкапаў усю бульбу з вучасткаў і атрымаў такія вынікі: *па супэрфосфату* 1 кв. саж. даў 23 фун., *на гнаі*—28., а *па торфу*—30 ф. зважыўшы ўсё з вучастку я і падумаў—ня дарма культурныя людзі называюць тарфяное балота залатым дном.

З гэтым вопытам я ўжо пазнаёміў шмат сялян, нават і чужых с/с. У „Дзень Ураджаю“ я расказваў на выстаўцы аб значэньні торфу. Пасьля мяне ўзяў слова заг. саўх. Горкі Апчацкага с/с., т. Ерафімаў і таксама тлумачыў сялянам значэньне торфу і якую ён дае карысьць у гаспадарцы.

**Сел. К. Запольскі.**

---

# Мой досьлед з турнэпсам.

Пад турнэпс трэба араць глыбока на зіму.

На зіму 1924 г. у мяне іржышча было ўзарана плытка, і калі я пасеяў у 1925 г. па гэтым іржышчы турнэпс, дык увосень атрымаў невялікі ўраджай: караньплоды турнэпсу былі кароткія, я падумаў, што гэта сталася ад плыткай воранкі і надумаўся залажыць вопытны вучастак.

Увосень 1925 г. я ўзяў дзьве дзялянкі па $^{1}/_{8}$ дзесяціны і адну на зіму ўзараў глыбінёю ў 5 вярш., а другую ў 2 вярш.

Вясною палажыў дробнага конскага гною па разьліку 1200 п. на дзес., заараў абедзьве дзялянкі глыбінёю ў 4 вярш. і пасеяў турнэпс.

Праз усё лета даглядаў абедзьве дзялянкі роўна; прарываў і абганяў па два разы.

Увосень, калі я выкапаў свой турнэпс і зважыў з кожнай дзялянкі ўраджай, то аказалася вялікая розьніца. З дзялянкі, якая на зіму была ўзарана на 5 вярш. глыбінёю, я атрымаў 400 п., або 3600 пуд. на дзес. (даўжыня кожнае штукі была 8-9 вярш.), а з дзялянкі, якая на зіму аралася ў 2 вярш.—240 пуд., або 1960 пуд. на дзес., (турнэпс па 3-4 вярш. даўжыні і значна танейшы).

Гэты досьлед мне паказаў, што пад турнэпс трэба на зіму араць што найглыбей.

У гэтым годзе я ўзараў пад турнэпс цэлую дзесяціну на 5 вярш. глыбінёю і раю гэтак рабіць кожнаму селяніну, які ўжо пачаў сеяць караньплоды.

Сел.—дасьледчык **М. Пятроўскі.**

---

# Досьлед з сэлекцыйным ячменем.

Вясною 1926 г. у селяніна Новікава Яна з хутара Падбярэзьзе [1]) быў заложан досьлед: „уплыў часу пасева сэлекцыйнага ячменю на ўраджай гэтай культуры і ўплыў сартаваньня на ўраджай мясцовага ячменю.“

Дзялянкі былі заложаны па іржышчу, якое было ўзарана вясной і мелі па 30 кв. саж. Абараняючыя палосы былі на 1 саж. Форма дзялянак вось якая:

Абараняючая паласа.

| Дз. № 1 раньні сэлекцыйны ячмень. | Дз. № 2 сэлекц. ячм. сярэдні. | Дз. № 3 позны сэлекц. ячмень. | Дз. № 7 сартаваны мясцовы ячмень. |
|---|---|---|---|

Абараняючая паласа.

| Дз. № 6 позны сэлекц. ячмень. | Дз. № 5 сярэдні сэлекц. ячмень. | Дз. № 4 раньні сэлекц. ячмень. | Дз. № 8 несартаваны мясцов. ячм. |
|---|---|---|---|

Абараняючая паласа.

[1]) Межынскі раён

Калі быў сабраны ўраджай, дык атрымаліся вось якія вынікі:

| №№ Дзял. | Што было пасеяна | Урадж. зярна на дзял. у ф | Ураdж. зярна на дзес. у пуд. | Ураджай саломы з дзялянак. | Ураджай саломы на дзес. | Час высев. | Час прыборкі. |
|---|---|---|---|---|---|---|---|
| 1 | Раньні сэлекц. ячмень | 25 | 50 | 1 п. 20 ф. | 120 п. | 28-V | 5-IX |
| 2 | Сярэдн. сэлекц. ячм. | 36 | 72 | 2 „ | 260 „ | 4-VI | 13-IX |
| 3 | Позн. сэлекц. ячм. | 20 | 40 | 1 „ 20 „ | 120 „ | 12-VI | 29-IIX |
| 4 | Раньні сэлекц. ячм. | 25 | 50 | 1 „ 20 „ | 120 „ | 28-V | 5-IX |
| 5 | Сярэдн. сэлекц. ячм. | 36 | 72 | 2 „ | 160 „ | 4-VI | 13-IX |
| 6 | Позны сэлекц. ячм. | 20 | 40 | 1 „ 20 „ | 120 „ | 12-VI | 29-IX |
| 7 | Сартав. мясц. ячм. | 23 | 46 | 1 „ 20 „ | 90 „ | 14-VI | 3-IX |
| 8 | Несартаваны мясц. ячмень | 17 | 34 | 1 „ 20 „ | 120 „ | 14-VI | 3-IX |

Дзьве дзялянкі № 7 і 8 яскрава паказваюць на колькі селяніну выгадна сартаваць насеньне. Адсартаванага насеньня ўраджай на дзес. 46 п., несартаванага—34 п.

Гэтыя цыфры паказваюць тое, што трэба сартаваць насеньне. Лічбы ўзяты з правільных запісаў гаспадара.

Сел. **Сялюкін**.

# Вопыт з попелам.

Селянін в. Бабіна Межынскага раёну, Кавалёў Васіль мае даволі высокую сенажаць і ніколі ў сухі год ня меў добрага ўраджаю.

Сёлета вясной ён параіўся з райаграномам, адмерыў кавалак сенажаці ў 240 кв. саж. і пасеяў 8 п. сабранага попелу, заскарадзіўшы яго драўлянай бараной з жалезнымі зубамі. Тры тыдні ня было відаць ніякай розьніцы, але потым угноеная сенажаць пачала аддзяляцца ад няўгноенай. Замест сіўцу на ўгноеным вырасла дзятліна, гарошак, а на няўгноенай травастой быў кепскі, ды і той пасьля згарэў на сонцы.

З угноенай дзялянкі Кавалёў сабраў два вазы сена пудоў па 15, а на няўгноенай і аднаго воза не набраў, усяго пудоў 13.

Такім чынам, угноеная попелам (80 п. на дзес.) сенажаць дае каля 300 п. добрага сена, а няўгноеная ўсяго каля 130 пуд. кепскага.

Сяляне, бярэце прыклад з Кавалёва!

Сел. **С. Сялюкін**

# Лён, як пажніўная расьліна.

У № 6 „Плуга“, аграном. С. Тупяневіч, зьмясьціў артыкул „Здымайцё два ўраджаі ў адно лета“.

У гэтым артыкуле дзядзька Тупяневіч раіў пасьля прыборкі жыта, ці ячмэню сеяць грэчку, гарох, выка—аўсяную мешаніну ці лён, як пажніўныя расьліны. Я і некаторыя мае суседзі пасьля прыборкі жыта зрабілі гэтыя вопыты.

Я пасеяў лён, селянін Драздоў гарох на корм, Іваноў выка-аўсяную мешаніну таксама на сена. Праўда, гэтыя вопыты крыху спазьніліся, бо раней гэтага ня ведалі, а часопісь „Плуг“ спазьнілася пасьля прыборкі жыта, амаль што на два тыдні, з-за гэтага воранка і пасеў пажніўных расьлін спазьніліся. Але апісваю далей.

У мяне лён быў пасеян па іржышчу, дзе жыта было пасеяна на гнаі, на дзес. каля 2.000 п. Зараз, як толькі атрымаў № 6 „Плуга“, я запрог каня і ўзараў кавалак іржышча.

Праз тры дні я заворанае троху паскародзіў і пасеяў лён-даўгунец на валакно, як раіў „Плуг“. Толькі ён раіў араць першы раз на 1—1½ вярш., а другі праз тыдзень на поўную глыбіню, я-ж узараў на поўную глыбіню адразу. Праўда, я гэтым трохі і пашкодзіў, бо ў час апрацоўкі ня было дажджоў. У першы час лён рос вельмі марудна, а пасьля, калі ён быў ростам вярш. 2, пашлі дажджы і ён хутка пашоў у гару. Да маразоў, якія пачаліся сёлета рана, лён вырас да ¾ арш. і ўжо набраў бутоны дзеля красаваньня. Тут я яго вырваў, абрэзаў, памачыў, у вадзе ён быў 10 дзён, бо лён быў зялёны і хутка зрабіўся мяккі.

Цяпер я яго ўжо зьмяў. Валакно вельмі прыгожае, толькі трохі слабейшае за звычайнае, і афарбоўка зялянейшая. Слабасьць, я думаю, ад таго, што ён трохі перамяк.

Аднак вынікі добрыя. Дзякую „Плугу“! Налета я пасею лён трохі раней.

Драздоў пасеяў таксама на іржышчы гарох на сена. Прыкатаў яго катком. Апрацоўваў як і я, толькі перад сяўбой пераехаў па пахаці пружыноўкай. Да марозаў гарох вырас да 10 вярш., але красаваць ня думаў.

З кавалка зямлі ў 125 саж. Драздоў атрымаў добры воз сена каля 20 п.

Іваноў Хвёдар сеяў выка-аўсяную мешаніну пасьля ячмэню па гнаі, і з кавалка ў 76 кв. саж. атрымаў 11 п. добрага сена, толькі яно ў яго трохі падмёрзла.

Усе гэтыя досьледы апраўдваюць словы—„Зьнімай у адно лета два ўраджаі“.

Сел. Сялюкін.

# Садоўніцтва

## Нашы сады.

*(Вынікі абсьледваньня садоў у Аршанскай акр.).*

Садоўніцтва ў БССР зьяўляецца аднэй з важнейшых галін сел.-гаспадаркі. Пашырэньне садоў, пасадка новых і закладка вялікіх школак па акругах кажуць за тое, што на Беларусі садоўніцтва пашыраецца з кожным годам і набывае прамысловы характар.

Прыемна адзначыць, што ў сувязі з земляўпарадкаваньнем і пераходам сялянства на хутары і пасёлкі, кожны гаспадар лічыць за абавязак завесьці хоць невялічкі садок.

На жаль, нашы школкі пры саўхозах пакуль што ня маюць магчымасьці здаволіць попыт на прышчэпы. Як вынік вялікага попыту, мы бачым закладкі новых школак па некалькі дзесяцін у розных акругах Беларусі. Можна быць упэўненым, што недалёк той час, калі попыт сялянства будзе здаволен. Усё гэта, бязумоўна, добра, і трэба вітаць такія пачынаньні.

Кепска толькі тое, што мала ўвагі зварочваецца на нашы сады, якія ўжо ёсьць, і якія давалі досыць значны прыбытак гаспадарцы пры добрым доглядзе.

Па даручэньню катэдры садоўніцтва с.-г. Акадэміі ў гэтым годзе было праведзена абсьледаваньне некаторых садоў Аршанскай акр. Асабліва цікавыя вынікі абсьледаваньня саду пры саўхозе „Вусьце". Гэты сад у даваенны час быў адным з лепшых садоў Беларусі, дзякуючы таму, што пасаджаны ён у 1902—3 г. і выхаван згодна ўсіх патрабаваньняў навукі. Плошча саду 20 дзес. роўнай, добрай, зьлёгка суглінкавай глебы. Да вайны гэты сад прыносіў добры даход. Быў выпадак, што 4 дзес. гэтага саду далі 7.000 руб чыстага прыбытку, дзякуючы выключнаму ўраджаю і добраму з усіх бакоў сорту яблык.

Апошнія гады, калі за садам няма добрага догляду, большая частка садовых дрэў хварэе рознымі хваробамі.

Вось лічбы, атрыманыя ў выніку абсьледваньня самых пашыраных і важных сартоў гэтага саду. (Гл. стар. 21).

Першае, што кідаецца ў вочы з паданай табліцы, гэта вялікі % (30) выпаўшых ад розных хвароб дрэў. Другое—колькасьць хворых пладовых дрэў (28%); прычым трэба мець на ўвазе, што лічба дрэў здаровых вельмі схіляецца ў бок хворых дрэў, бо большасьць з гэтых лічаных здаровымі, таксама пачынаюць хварэць. Толькі тэрмінова і неадкладна прынятыя меры могуць выратаваць гэты сад ад гібелі.

| №№ | Сарты яблынь | Узрост | Здаровых дрэў | Хворыя: Антонаў агонь | Марозабіцьцё | Ажогі | Хвароба карнявой шыйкі | Дуплістых | Сухавярх. | Выпаўшых | Усяго дрэў |
|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|
| 1 | Антонаўка | 65 | 56 | 39 | 2 | — | — | 18 | — | 87 | 202 |
| 2 | Антон.—камянічка | 24 | 31 | 1 | — | — | 23 | 1 | 1 | 30 | 87 |
| 3 | Струмілаўка | „ | 284 | 76 | — | 3 | 43 | 4 | 5 | 62 | 477 |
| 4 | Бабушкіна | „ | 121 | 1 | — | — | — | — | — | 14 | 136 |
| 5 | Штрэйфлінг | „ | 29 | — | — | — | — | - | — | — | 29 |
| 6 | Пэпін | „ | 2 | — | 16 | — | — | — | — | 37 | 55 |
| 7 | Пэпін літоўскі | „ | 12 | 40 | 30 | — | — | — | 1 | 93 | 176 |
| 8 | Чорнагуз | „ | 32 | 3 | — | — | 1 | 1 | 1 | — | 38 |
| 9 | Земляніч. Нічнера | „ | 111 | 55 | 7 | — | 33 | 1 | 2 | 95 | 304 |
| 10 | Чорнае дрэва | „ | 25 | 64 | 3 | 4 | 1 | 1 | — | 66 | 164 |
| | Усяго | | 703 | 279 | 58 | 7 | 101 | 26 | 10 | 484 | 1668 |

Як самы крэпкі сорт па здароўю, трэба адзначыць „Штрэйфлінг“, які аказаўся зусім здаровым, за выключэньнем некаторых мэханічных дэфэктаў штамбаў.

Амаль што тое самае можна сказаць і адносна сорту „Бабушкіна“, з 136 дрэў якога толькі адно хварэе „антонавым агнём“, а пустыя месцы ў ліку 14-ці не зьяўляюцца выпаўшымі, а былі ўкрадзены ў гады рэвалюцыі, дзякуючы вельмі прыгожым каронам і здаровым штамбам.

Усе іншыя сарты, як мы бачым, гінуць затым, што ніякіх мер лячэньня ня прымаецца, а тлумачыцца гэта адсутнасьцю сродкаў. Прыкладам, мы бачым, што вялікая колькасьць дрэў „пэпіна“ хварэе ад марозабіцьця, з чым лёгка змагацца, пабяліўшы дрэва вапнаю.

Таксама шляхам ачысткі штамбаў і пабелкі можна было-б пазбавіцца ад грыбкоў-трутавікоў і лішайнікаў, якімі пакрыты ўсе дрэвы, асабліва ў старэйшай частцы саду.

Акрамя розных хвароб, як рак, хвароба карнявой шыйкі, антонаў агонь, ад якога больш усяго выпадае дрэў, нашы сады прыносяць мала карысьці з-за адсутнасьці ўгнаеньня і культурнай апрацоўкі глебы. Табачна-жоўты колер лісьця ў сярэдзіне лета паказвае, што дрэва патрабуе ўгнаеньня глебы.

І затым ня дзіўна, што дрэвы, якія давалі пры добрым доглядзе па 15—20 п. яблык, цяпер даюць па 3—5 пуд., ды і то ня надта добрых (маленькіх і нячыстых) пладоў.

**А. Влашынскі.**

(Студэнт Б с.-г. Акадэміі).

# Значэньне апылкаваньня ў пладовых дрэў.

*(Па матар'ялах Горацкай Садовай дасьл. станцыі).*

Пры дасьледваньні садоўніцтва Горацкага раёну мы ўпэўніліся, што тут можна спаткаць адных яблык да сотні сартоў. З гандлёвага боку нам патрэбна мець для кожнага раёну па 4-5 трывалых, каштоўных сартоў. Ужо 25—35 год таму назад у б. панскіх маёнтках пачалі садзіць пераважна гандлёвыя сарты ў абмежаваным ліку. Аб значэньні беларускай антонаўкі ў Эўропэйскім пладовым гандлю піша А. Янсон у сваёй навуковай працы „Прыбытковае садоўніцтва".

Сёлета пры спатканьні на Мліяўскай дзяржаўнай садовай станцыі (УССР) з загадчыкам Ул. Л. Семірэнка ў гутарцы выявілася, што беларуская антонаўка з-пад Магілева, Жлобіна і Гомля забівае ў пладовым гандлю садоўніцтва Правабярэжнай Украіны, дзякуючы таму, што там няма сталага абмежаванага асортымэнту яблык. За апошнія і бліжэйшыя гады мы спадзяемся, што сялянскае садоўніцтва прыме даходны напрамак; гэта значыць, што ў кожным раёне будзе малы лік сартоў вельмі каштоўных і трывалых. Лепшыя адмены антонаўкі будуць займаць пераважнае месца ў нашым гандлю пладамі яшчэ доўгі час.

Заўважым, што апошнія весткі сьведчаць аб бясплоднасьці чыстых антонаўскіх сартоў. У Дрыбінскім раёне сад з антонавак у 3 дзесяціны У. Качаноўскага на 15 годзе (пры спрыяючых умовах), ня глядзячы на тое, што вясной заквітае, пладоў не дае. Сёлета таксама сад моцна цьвіў, але пладоў зусім мала (з малой колькасьцю насеньня ў пладох).

Аб бязплоднасьці аднасортных канадзкіх садоў у сотні гэктараў ужо пісалася даўно і толькі тады, калі падсаджваліся 2-3 іншых сарты, сады пачыналі даваць ураджай.

Большасьць нашых сартоў вымагае скрыжаванага апылкаваньня, гэта значыць, што толькі тады, калі пылок іншага сорту пападзе на рыльца кветкі, напр. антонаўкі, атрымаем добрыя плады з насеньнем. Досьледы падкрэсьліваюць, што ў нашых умовах антонаўка, скрыжаваная сваім пылком (таксама і пылком іншага дрэва антонаўкі), не дае пладоў.

Паўстае пытаньне, ці кожны іншы сорт добра апыляе антонаўку і якія сарты зьяўляюцца найлепшымі для апылкаваньня.

Можа нашы каштоўныя сарты, як штрэйфлінг, бабушкіна, цынамонавае дапамагаюць апылкаваньню антонаўкі? Ці апылкоўваюцца гэтыя сарты паміж сабой?

У 1925 г. нашай станцыяй былі пастаўлены досьледы па гэтаму пытаньню.

Матачным дрэвам узята была антонаўка, а пылок перанасіўся на апошнюю з кветак штрэйфлінгу, цынамонавага паласатага, корабаўкі, баравінкі, маліноўкі і канадзкіх сартоў.

Заквітаньне пачалося 9 траўня і скончылася 15 траўня. Цяплыня вельмі спрыяла досьледам. Аб мэтадзе кастрацыі і іншых прыёмах пры штучным апылкаваньні пісаць ня будзем.

Вынікі апылкаваньня (1925 г.) наступныя—скрыжаваньне антонаўкі з антонаўкай (узяты розныя дрэвы) праз месяц дало ўсяго 7 проц. плодазавязі, а высьпеўшых пладоў ня было ніводнага.

Зусім не атрымана плодазавязі пры апылкаваньні антонаўкі ў межах аднаго дрэва.

Пылок цынамонавага паласатага быў перанесен на 50 кветак антонаўкі. Атрымана пладоў 28 шт. (56 проц.). Пылок корабаўкі быў перанесен на 29 кветак антонаўкі, ад чаго атрымана 65 проц. пладоў. Канадзкі сорт даў з антонаўкай 41 проц. пладоў. Пылок штрэйфлінгу і малінаўкі ня даў пладоў на антонаўцы, антонаўка баравінка—6 проц., бабушкіна і антонаўка – 53 проц.

Гэтакім чынам антонаўка вельмі добра апылкоўваецца цынамонавым, корабаўкай і інш.

Досьледы з апылкаваньнем сёлета значна пашыраны. Зроблена каля 10.000 апылкаваньняў у Горках; апроч таго ў „Фатыні" аграномам-садаводам Коканавым разам з Я. Марозам зроблена каля 800 апылкаваньняў паміж расьлінамі.

Аб сёлетніх выніках будзе ў наступных №№ „Плуга".

Папярэдзім, што сёлета пылок штрэйфлінгу даў досыць значны процант пладоў на антонаўцы.

З практычнага боку трэба памятаць, што на кожныя 10 антовавак патрэбна пасадзіць 1 дрэва іншага сорту, якое-б спрыяла апылкаваньню, як напрыклад цынамонавае паласатае і інш.

Вядома, што апылкаваньне добра ідзе пры дапамозе пчол, чаму ў садох трэба трымаць пасеку. Па нямецкіх досьледах выяўлена, што чым далей дрэвы ад пасекі, тым менш бывае пладоў.

Пры шпаркім разьвіцьці садоўніцтва трэба рупіцца аб пашырэньні пасек і лічыць гэта канечна патрэбным мерапрыемствам кожнага садавода.

М. Бурштэйн.

---

# Карысьць сеяць капусту ў палявым кліне.

У бягучым годзе я зрабіў першы вопыт з пасевам капусты ў палявым кліне на канюшынішчы.

Увосень 1925 г. я адмераў 100 кв. саж., навазіў кароўяга гною па разьліку 1 пуд на 1 саж., і зaараў на глыбіню да 4-х вяршкоў. Вясной, як толькі прасохла зямля, папружынаваў у тры сьляды, а ў першай палавіне траўня зaараў за 2 тыдні да пасадкі, каб зямля пpыляжала трохі.

Потым зрабіў значнік і памеціў, каб на 1 расьліну прыпадала 1 кв. саж. зямлі, у шахматным парадку. Матыкай набіў ямкі і ў кожную ямку насыпаў нягашанай вапны з супэрфосфатам. На ўвесь вучастак пашло па $^{1}/_{2}$ п. таго і другога. Далей зьмяшаў кароўяга гною з глінай і ў яго абмакаў карані перад пасадкай, якую зрабіў 25 траўня. Пасьля пасадкі паліў і расада добра прыжыла. Сорт расады браў ульмскую і браўншвэйскую. Потым паматыкаваў 2 разы і капуста скора паслалася па зямлі і зраўнялася. У пачатку верасьня я пачаў прадаваць у Менску капусту, бо гаварылі, што яна ўвосень будзе лопацца. Кожны кв. саж. даў мне 1 р. 35 к. прыбытку.

На выстаўцы ў „Дзень Ураджаю" мая капуста зьвярнула на сябе ўвагу. На ўгноеным гародзе я таксама садзіў капусту, але яна была ў 3 разы горшая.

Сёлета я ўжо падрыхтаваў 200 кв. саж. пад капусту ў палявым кліне для будучага году.

Сел. К. Запольскі.

# Як зрабіць жывую абгародку.

Нашы сады і гароды, як вядома, патрабуюць абароны ад жывёлы, халодных паўночных і паўночна-ўсходніх вятроў. У гарадох яны звычайна абаронены дашчатаю абгародкаю, у вёсках-жа частаколам, кольлем.

Такія платы абходзяцца гаспадару дорага. Вось жывая абгародка і не каштоўна, і моцная, і прыгожая. Але жывыя платы яшчэ і да гэтага часу мала дзе ёсьць у нашых сялян. Насадзіць жывога дрэва—праца ня хітрая; трэба толькі падабраць расьліны, бо ня кожнае дрэва падыходзіць да гэтай мэты. Для пасадкі жывога плоту ў нас больш прыгодны *ёлка, жоўтая акацыя, звычайны бэз і баярышнік* (кратэгуз).

Ёлка зьяўляецца самай распаўсюджанай і адною з лепшых парод дрэў. Яна ўдаецца на ўсякай глебе, але лепш расьце на гліністай, сярэдняй вільгаці. Ёлка робіць вельмі густую непрахадзімую жывую абгародку. Закладаюць жывы плот з восені. Капаюць кругом канаўку ў $1^1/_2$ арш. шырынёю і вярш. 10 глыбіні, робячы невялікія ўхілы па бакох, зямлю з канавы выкідаюць у бок абгароджанага месца. Але гэта можна зрабіць і вясною, як толькі адтане зямля. У пачатку траўня, як на ёлках пакажуцца маладзеньнія сьветла-зялёныя голачкі, робіцца пасадка жывой абгародкі. Садзяць ёлкі ў канаўцы радком адна ад аднэй на поўаршына. Для гэтага трэба браць маладзенькія 4-х гадовыя ёлачкі, іх можна капаць каля лесу, з добрымі бакавымі сукамі. Праца па выкопваньню елак вельмі цікавая. Рыдлёўкі амаль што ня трэба, а ўзяўшы за ствол ніжэй сучкоў можна вырваць рукамі. Галоўны корань у ёлкі слабы, а бакавыя сьцелюцца на паверхні зямлі і вясною, калі глеба вільготная, ёлка лёгка вырываецца з усімі сваімі каранямі. Карэньні ў ёлкі бываюць вельмі доўгія, пры пасадцы іх трэба ўкарочваць; абразаць трэба вострым нажом, каб зрэзы былі роўныя і кара не абдзіралася. Пасаджаныя ёлкі трэба некалькі разоў паліць, пакуль яны ня пойдуць расьці. У першы год ёлкі даюць слабы прырост. На другі год вясною абразаюць у іх вярхі для таго, каб дрэва мацней разрасталася ў бакі. На 3-ці і далейшыя гады ёлку стрыгуць і з бакоў, і зьверху, прычым зьверху стрыгуць вясною, а з бакоў увосень. Ніжнія сукі ня стрыгуць, каб яны расьлі па зямлі і не пакідалі прасьветаў. Праз некалькі год ельнік зробіць добры доўгавечны плот, ня толькі ад стада, але і ад хатняй птушкі.

Акацыя добра расьце на ўсякай глебе, нават і на пескавой. Яна хутка расьце, у густых галінах акацыі любяць вадзіцца розныя птушкі, якія абараняюць сады ад кузурак. Жоўтая акацыя дае добры ўзятак мёду для пчол. Недастаткам яе зьяўляецца тое, што яна хутка старэе і ад сьнегу абвісае да зямлі, але сьсекшы яе, ад пнёў растуць маладыя адросткі, яшчэ гусьцейшыя. Разводзіцца жоўтая акацыя больш пасевам насеньня. Зьбіраць насеньне трэба ў канцы лета з 1-га па 20-га жніўня. Рукамі абіваюць стручкі з усяе галіны разам. Сушаць струкі на палатне. Дзе хочуць залажыць абгародку з жоўтае акацыі, там ускапваюць на 5-7 вярш. зямлю ў глыбіню і на $1^1/_2$ арш. ушыркі і пасярэдзіне сеюць адзін ці два радкі насеньня незадоўга да марозаў. Вясною ўвесь засеў трэба выпалаць, каб трава не заглушыла ўсходаў, і ўспульхніць зямлю. Сеяць можна і ўраскідную, рукамі, але лепш радкамі: радок ад радку на 4 вярш. і зярнё ад зярняці на $^1/_2$ вярш. Праз два гады жоўтая акацыя вырасьце і яе тады пачынаюць падстрыгаць, каб яна лепш расла ў бакі і ўжо праз 2-3 г. акацыя будзе добраю агарожаю.

Сел. А. Карнейчык.

# ЛЯСНАЯ ГАСПАДАРКА

## Гадоўля лесу.

Савецкая Ўлада передала сялянам Беларусі ў бестэрміновае карыстаньне 449.303 гэкт. лесу. Апрача таго, наша сялянства жыве пасуседзтву з дзяржаўнымі лясамі і заўсёды мае да лясоў шмат інтарэсаў. Адным словам, селянін, як кажуць, зросься з лесам. Загэтым лес вымагае ад селяніна добрых і ўважлівых адносін, пашаны і ўменьня гаспадарыць у ім.

Сялянству трэба таксама ведаць аб лесе, як і аб сваёй палявой гаспадарцы. Калі хлеб родзіць толькі ў спрактыкаванага гаспадара, таксама і лес дасьць больш карысьці, калі яго правільна гадаваць і ўмела вырашчваць. Нажаль, надта мала распаўсюджаны сярод сялянскіх мас веды аб лесе.

Трэба ведаць, што лес расьце далёка ня так хутка, як травяністыя расьліны і за год прырастае ўсяго на адзін слой. У спадчыну ад безгаспадарчых рубак памешчыкаў мы атрымалі лясы маладыя, гадоў па 20—40. У такім узросьце лес патрабуе найлепшага догляду. Калі мы пералічым у гэты час усе хвойкі, якія растуць на 1 гэкт., то ўбачым, што іх на дзіва многа. У натуральным густым лесе, дзе яшчэ ні разу ня было рубкі, на 1 гэкт. налічана дрэў сасны:

| | | | | | | | |
|---|---|---|---|---|---|---|---|
| ва ўзросьце | 20 г. | было | 4560 | ва ўзросьце | 90 г. | было | 670 |
| „ | 30 „ | „ | 4560 | „ | 100 „ | „ | 590 |
| „ | 40 „ | „ | 3370 | „ | 110 „ | „ | 520 |
| „ | 50 „ | „ | 2520 | „ | 120 „ | „ | 470 |
| „ | 60 „ | „ | 1740 | „ | 130 „ | „ | 440 |
| „ | 70 „ | „ | 1170 | „ | 140 „ | „ | 410 |
| „ | 80 „ | „ | 870 | | | | |

З гэтай таблічкі мы бачым, што ў 20 гадоў было 4560 шт. хвоек а к 140 гадам на тэй самай плошчы засталося іх толькі 410. Таксама, з 9000 елак у ўзросьце 20 г. к 120 г. застаецца толькі 1000 шт. Дзе-ж падзеліся 4150 хвоек і 8000 елак? Каб разгадаць гэту загадку нам трэба пайсьці ў лес, уважна разгледзець і ствалы, і карэньне дрэў. Такі разгляд жэрдняку нам пакажа, што дрэвы маюць розныя разьмеры— ёсьць тоўстыя і тонкія, высокія і нізкія. Прыгледзіўшыся добра да таўсьцейшых і вышэйшых дрэў, заўважым, што яны маюць добрую і густую карону. У меншых (танейшых і нізкіх) яна разьвіта горш, яе зацяняюць іншыя кароны дужэйшых суседак і не даюць разрастацца ў бакі—ёй мала месца. Знойдзем тут таксама некалькі дрэў зусім прыгнечаных, кволых. У гэтых карона зусім маленькая, ніжэй агульнай

лясной шаты ці ўваходзіць у яе толькі сваёю верхавінаю. Апроч таго, заўважым, што ніжняе суччa дрэў пасохла ці засыхае і чым большы гушчар, тым вышэй па ствалу засыхаюць сукі. У лесе цемра, карэньне пераплялося паміж сабою і не прапушчае на зямлю ніводнага променя сонца. Трава зусім не расьце ў такім месцы.

Такую рознастайнасьць дрэў у лесе нямецкі лясьнічы Крафт падзяліў на некалькі тыпаў і даў сваю клясыфікацыю дрэў (малюнак якой прыкладаецца).

Аглядаючы цяпер у лесе кароны дрэў з малюнкам Крафта ў руках, мы бачым дрэвы выключна пануючыя ў даным дрэвастане. Гэта будуць дрэвы самыя высокія і самыя тоўстыя. (I кляса).




Карона іх найбольшая ад іншых, правільнай формы. Ствол сукаваты, пры чым таўшчыня яго хутка зьмяншаецца к вяршыне. Дрэвы, як кажуць лясьнічыя, „зьбяжыстыя“.

Другія таксама добрыя і па вышыні і па грубіні, але крыху ніжэйшыя ад першых (II кл.)—„пануючыя“. Карона ў іх поўная, правільная, але крыху меншая і сукаватая. Ствалы не такія зьбяжыстыя. Затым мы ўгледзім яшчэ адну групу дрэў, таксама добрых, але ніжэйшых і маючых карону сьціснутую з бакоў. Яна намнога вузейшая ад двух вышэйапісаных форм.

Відаць, што гэтым хвойкам не салодкае жыцьцё: іх цісънуць з усіх бакоў і мала ім сьвету. Такія дрэвы Крафт празваў „*сапануючымі*“ (III кл.). Гэтыя тры групы ўтвараюць агульную верхнюю лясную шату.

Сярод астатніх дрэў можна вылучыць яшчэ наступныя клясы:

1) *дрэвы маючыя вельмі вузкую, сьціснутую з усіх бакоў, аднабокую карону з некалькімі зялёнымі галінамі*. Адразу відаць ужо, што дрэва гэта памірае. Крафт адносіць іх да IV кл.—„*прыгнечаныя дрэвы*“.

2) *тонкія дрэвы з рэдкай каронай*, знаходзячыяся зусім пад лясною шатаю. Адны з такіх хвоек маюць яшчэ зялёныя галіны, а другія зусім засохлі.

Такім чынам, цяпер мы бачым, што хоць дрэвы агледжаных намі вучасткаў былі пасеяны разам, з аднаго насеньня, можа нават з аднае шышкі, але зусім рознастайныя. Гэта вынікае вось з чаго: з маленства дрэўцы растуць дружна, буйна, але як сойдуцца яны сваімі каронамі, то і пойдзе паміж імі барацьба за сьвет. Дрэва, якое расло раней хутка, пачуўшы, што сусед цягнецца ў гору, каб абагнаць яго, кіне расьці ў бакі (гальлё) і зачне расьці яшчэ хутчэй і праз некалькі гадоў зачне ўціскаць свайго суседа і не даваць яму ходу. Аслабеўшае з тэй ці другой прычыны ня можа вытрымаць барацьбы з дужым суседам і павінна загінуць.

Трэба прымаць пад увагу, што з павялічэньнем росту дрэва, яно будзе патрабаваць больш пажывы, вады і сьвету. Вось за кожны кавалачак гэтага і ідзе заўзятая барацьба ў лесе, якая цягнецца да старасьці і выклікае сьмерць сярод некаторых дрэў. Выжывае, як мы бачым, 5—10 проц.

Больш усяго гіне ў маладых гадох так:

| | | | | |
|---|---|---|---|---|
| З | 20— 30 | г. гіне | 1190 | дрэў |
| » | 30— 40 | » » | 850 | » |
| » | 40— 50 | » » | 780 | » |
| » | 50— 60 | » » | 610 | » |
| » | 60— 70 | » » | 260 | » |
| » | 70— 80 | » » | 200 | » |
| » | 80— 90 | » » | 80 | » |
| » | 90—100 | » » | 70 | » |
| » | 100—110 | » » | 50 | » |
| » | 110—120 | » » | 30 | » |
| » | 120—130 | » » | 30 | » |
| » | 130—140 | » » | 20 | » |

З таблічкі відаць, што ва ўзросьце жэрдняку і да 80 г. ідзе самая заўзятая барацьба і найбольшы адпад у дрэвастане. Гэта барацьба не праходзіць дарма і для перамогшых дрэў, яны падрываюць свае сілы і ня могуць даць таго прыросту, які-б маглі даць, каб ня трацілі сілы на змаганьне.

Ясна, што нельга і нам бязудзельна глядзець на гэту барацьбу.

Наша задача даглядзець, каб з лесу мы атрымалі ствалы найлепшай якасьці, як кажуць лесаводы, весьці догляд „*за формай ствала*“, каб ён удаўся здаровы, просты, бяз хібаў, высока ачысьціўся ад сукоў і ня быў „*зьбяжысты*“. Дзеля гэтага трэба зрабіць так званае „*прарэджваньне*“ дрэвастану, гэта значыць, 1) *высячы тыя дрэвы, якія сохнуць ці ўжо засохлі*, 2) высячы крывыя, хворыя і інш. Зрабіць гэта вось як: калі мы будзем карыстацца падзелам дрэў на клясы, то можна зрабіць у залежнасьці ад густаты дрэвастану прарэджваньне слабае, сярэдняе і вялікае.

Слабым завецца такое, калі ў рубку пойдуць такія дрэвы, кароны якіх знаходзяцца ніжэй агульнай лясной шаты (IV кл. і частка V кл.)

Сярэднім—такое, калі трэба высячы цалкам V і IV кл.

Вялікім – высякаецца V і IV і частка III кл.

Якое дзе рабіць прарэджваньне агулам сказаць цяжка, гэта залежыць і ад дрэвастану, і ад поглядаў гаспадара, пры гэтым трэба глядзець, калі дрэвастан густы, на добрай глебе і расьце буйна, то тут можна рабіць прарэджваньне сярэдняе і нават вялікае. Наадварот, на глебах бедных, у дрэвастане нягустым правільна было-б выбраць V кл. па Крафту, г. зн. зрабіць слабае прарэджваньне.

У дубовых лясох прарэджваньне трэба рабіць значнае, і асабліва сачыць, каб верхавіны дубкоў былі свабодны, тым часам, як з бакоў ствалы павінны быць даволі сьціснуты. Для дуба патрэбны цень з бакоў і сьвет зьверху. Ён уважае расьці *„ў кажуху, але без шапкі“*, як кажуць лесаводы. Калі няма цені з бакоў дуба, то ствол яго выходзіць крывы.

Звычайна, прарэджваньне другі раз робяць праз 10 гадоў. Мне часта траплялася бачыць, як селянін, маючы невялікі кавалак лесу, так шкадуе яго, што ходзіць па лесе і абцярэблівае сукі. Гэтага рабіць ніколі нельга, бо праз сьвежа абломлены сук можа папасьці ў дрэва хвароба. Як бачым з вышэйсказанага, пры належным доглядзе, мы і бяз гэтага можам выгадаваць добрыя, гладкія ствалы на бярвеньне.

Даглядайце разумна малады лес!

**Лесавод М. Шалупенка.**

# ЗЕМЛЯЎПАРАДКАВАНЬНЕ

## Як трэба разьмяркоўваць зямлю і іншую агульную маемасьць пры падзелах.

Па 81 арт. Зям. Код. пры сямейна-маемасных падзелах сялянскіх гаспадарак зямельныя і маемасныя долі членаў двара вызначаюцца адпаведна ліку яго працоўных адзінак.

Такім чынам, згодна літаратурнага сэнсу гэтага артыкулу, дзеля вызначэньня тэй часткі агульнае маемасьці, на якую маюць права члены, выходзячыя са складу двара, трэба было-б наперш вылічыць, колькі ў гэтым двары ёсьць працоўных адзінак. Пры гэтым кожнага члена, які мае 16 гадоў і больш, трэба лічыць за цэлую працоўную адзінку, члена двара ўзростам ад 12 да 16 гадоў за $^1/_2$ адзінкі, а няма ючых 12 гадоў за $^1/_4$ адзінкі; потым трэба вылічыць, колькі працоўных адзінак будзе ў тых членаў двара, якія выдзяляюцца, і на якую частку зямлі і іншае агульнае маемасьці яны маюць права. Выходзіць, што члены двара маюць права на дакладна вызначаную долю агульнае маемасьці і зьяўляюцца як-бы ўдзельнікамі агульнае ўласнасьці, якая прадугледжана 61—65 арт. Грам. Код.

Між тым, пры параўнаньні 81 арт. з увагай 1 да арт. 64, арт. 65 і 72 Зям. Код. выяўляецца зусім другая юрыдычная сутнасьць маемасьці сялянскага двара, якая вельмі розьніцца ад агульнай уласнасьці, прадугледжанай Грам. Код.

Па 65 арт. Зям. Код. зямля знаходзіцца ў агульным карыстаньні двара ў складзе ўсіх яго членаў, іншая агульная маемасьць (будынкі, жывы і мёртвы інвэнтар, насеньне і інш.) належыць да ўсяго двара ў цэлым без вызначэньня права на долю гэтай маемасьці кожнага паасобку члена двара. Дзеля гэтага член двара мае права на агульную маемасьць толькі да таго часу, пакуль ён жыве ў складзе двара. У выпадку пераходу ў другі двор ён адразу траціць права на карыстаньне зямлёю і права ўласнасьці на іншую маемасьць двара, з якога ён вышаў, і атрымоўвае адначасна ўсе гэтыя правы ў складзе новага двара.

Такое становішча была-б немагчымым, калі-б маемасьць сялянскага двара зьяўлялася агульнаю ўласнасьцю ў сэнсе Грам. Код. У гэтым выпадку член двара па праву ўласнасьці на вызначаную долю агульнае маемасьці, апрача зямлі, меў-бы права забраць гэтую маемасьць пры ўсякім выхадзе са складу двара, напр., у разе пераезду на жыхарства ў горад, пераходу да другіх заняткаў і інш.

Зямельны Кодэкс тым часам не дапушчае гэтага, бо ня толькі зямля, але і другая агульная маемасьць двара (будынкі, інвэнтар і інш.) маюць сваім прызначэньнем вядзеньне сельскае гаспадаркі.

Адданьне члену двара права забіраць вызначаную долю агульнае маемасьці прывяло-б да заняпаду сялянскай гаспадаркі, бо пераходы членаў аднаго двара ў другі бываюць вельмі часта ў выніку шлюбаў,

разводаў, прыёмаў, а то і проста нязгоды, асабліва паміж маладым і старым пакаленьнем, а таксама ў выпадку пераходу да неземляробскіх заняткаў. Дзеля гэтага ўвага 1 да арт. 64 Зям. Код. дае новаму члену двара такое-ж права на зямлю і іншую маемасьць, якое маюць другія члены, але за гэта новы член двара траціць усе свае правы на маемасьць у складзе двара, з якога ён вышаў. У разе-ж пераходу да другіх заняткаў член двара мае права на выплату, але не на падзел агульнае маемасьці. Правіла гэтае вызначана, праўда, у адносінах да недрабімых гаспадарак (арт. 84 Зям. Код.), якіх у нас 90 проц.

Затым, калі-б маемасьць сялянскага двара зьяўлялася-б агульнаю ўласнасьцю, якая прадугледжана 61-65 арт. Грам. Код., дык кожны член двара меў бы права пры ўсякіх умовах на падзел зямлі і іншае агульнае маемасьці. Між тым, па 72 арт. Зям. Код. падзел двара дапушчаецца толькі пры ўмове магчымасьці складаньня з яго ня менш 2-х самастойных гаспадарак. Апошнімі, згодна тлумачэньню Наркамзема, зьяўляюцца гаспадаркі, якія забясьпечаны мінімальнаю нормаю зямлі. Гэтакае скарачэньне падзелаў у інтарэсах гаспадарчай мэтазгоднасьці таксама сьведчыць, што паміж агульнай уласнасьцю Грам. Код. і агульнай маемасьцю сялянскага двара Зям. Код. ёсьць прынцыповая розьніца.

Адгэтуль відаць, што 81 арт. Зям. Код. нельга разумець літаральна, а трэба тлумачыць яго ў зьвязку з 64, 65 і 72 арт. таго-ж Код.

Апрача таго, прадастаўленьне ўсякаму поўнапраўнаму члену двара пры падзеле аднолькавага права на агульную маемасьць зьяўляецца гаспадарча немэтазгодным і несправядлівым.

Новы член двара, які прышоў у двор у выніку шлюбу ці прыёму і папрацаваў у гаспадарцы некалькі тыдняў, мае на агульную маемасьць двара аднолькавае права з тымі членамі, якія ўсё жыцьцё працавалі ў гаспадарцы. Такое-ж права на маемасьць двара маюць ледзьве дасягнуўшыя 18 гадоў яго члены, якія па ўзросту свайму вельмі мала працавалі ў гаспадарцы.

Такое становішча дапамагае падзелам. Калі-б члены двара, якія прад'яўляюць іскі аб падзеле яго, ведалі, што права іх на атрыманьне агульнае маемасьці прыроўніваецца да колькасьці працы і сродкаў, укладзеных імі ў гаспадарку, мы ня мелі-б тэй масы спраў аб сямейнамаемасных падзелах, якія пачынаюцца асобамі, вельмі мала працаваўшымі ў складзе двара.

Дзеля гэтага, пакуль прызнаюцца непадзельнымі двары, землякарыстаньне якіх не дасягае максымальнай нормы, нельга дапушчаць у іх падзел ня толькі зямлі, але і будынкаў, інвэнтару і іншае агульнае маемасьці, бо ўся яна ў цалку служыць дзеля вядзеньня сельскае гаспадаркі. Член такога двара пры выхадзе з яго складу можа толькі атрымаць у парадку 84 арт. Зям. Код. выплату за належную яму частку агульнае маемасьці, калі пры гэтым ён не ўваходзіць у склад іншага двара.

Калі-ж стары двор мае лішак будынкаў і інвэнтару, а яго члены, якія выходзяць з двара, складаюць самастойную гаспадарку на атрыманай з запаснага фонду зямлі, дык толькі ў гэтым разе можна выдзеліць яму частку агульнае маемасьці ў натуры, як растлумачана Асобнай Калегіяй Вышэйшага Кантролю ў журнале № 19 яе распараджаўчага пасяджэньня ад 12 кастрычніка 1926 г.

У выпадку-ж падзелу драбімага двара з яго складаюцца 2 ці некалькі жыцьцёвых гаспадаркі, прычым колькасьць зямлі і іншае маемасьці ў кожным з іх павінна таксама адпавядаць колькасьці

працы і сродкаў, якія ўкладзены членамі двара ў агульную гаспадарку. Пры ўзьнікненьні па гэтаму пытаньню спрэчак паміж членамі двара, доля іх вызначаецца зямельнаю камісіяй з прыняцьцем пад увагу ўсіх акалічнасьцяй справы.

Пры гэтым нельга толькі забывацца, што рэгістрацыя самахвотных падзелаў у цяперашні час прыпынена пастановай Савету Народных Камісараў ад 10 красавіка 1925 г. Судовыя-ж падзелы двароў могуць дапускацца зямельнымі камісіямі толькі пры ўзьнікненьні выключных акалічнасьцяй.

**А. Вішнеўскі.**

**Ад рэдакцыі.** Зьмяшчаючы гэты артыкул у дыскусыйным парадку, рэдакцыя просіць чытачоў выказацца па закранутых у ім пытаньнях.

---

# Пытаньні і адказы па зямельных справах.

Пытаньне 54. Ці можна сваю зямлю, калі яе мала, здаць у арэнду з тым, каб большую плошчу заарандаваць у другім месцы. (Калінін. акрземкамісія).

Адказ. Галоўнай умовай для здачы зямлі ў арэнду на падставе арт. 27 Зям. Код. зьяўляецца часовы заняпад гаспадаркі. У гэтым-жа выпадку землякарыстацель хоча здаць у арэнду сваю зямлю, лічачы больш сходным для сябе ўзяць у арэнду зямлю ў другім месцы. У такім выпадку Зям. Код. не дазваляе здаваць у арэнду зямлю працоўнага карыстаньня.

Пытаньне 55. У якім выпадку можа быць абжалавана адмова райвыканкома ў зарэгістраваньні дагавораў працоўнай арэнды зямлі.

Адказ. Жалабы на адмову райвыканкома ў зарэгістраваньні дагавора працоўнай арэнды зямлі падаюцца па аналёгіі з арт. 77 Зям. Код. у акруговую зямельную камісію.

Пытаньне 56. Каму падсудны іскі аб падзеле маемасьці без зямлі сялянскае гаспадаркі, якая не падлягае драбленьню. (Менская Акрземкамісія).

Адказ. Калі гаспадарка па колькасьці зямлі зьяўляецца недрабімай, дык і іншая маемасьць агульнага карыстаньня—будынкі, інвэнтар, насеньне і інш. не падлягаюць падзелу па пастановах, як народнага, так і зямельнага суду. У гэтым выпадку тыя члены, якія выходзяць са складу недзялімага двара, могуць атрымаць толькі сплату грашыма, ардынарыяй і адзеньнем за сваю долю агульнае маемасьці без зямлі. Спрэчкі аб велічыні і тэрмінах сплат разьвязваюцца зямельнымі камісіямі.

Пытаньне 57. Ці можа Райвыканком рэгістраваць самахвотныя дагаворы членаў двара аб падзеле маемасьці без зямлі.

Адказ. Па жаданьню членаў двара падлягаюць рэгістрацыі Райвыканкома самахвотныя дагаворы аб падзеле маемасьці без зямлі толькі драбімых двароў. Умовы-ж аб падзеле маемасьці двароў, якія не падлягаюць драбленьню, не павінны афармляцца.

Пытаньне 58. Ці падлягаюць рэгістрацыі сямейна-маемасныя падзелы, якія былі зроблены раней 7 чэрвеня 1925 г. і дзеля гэтага лічацца законнымі, калі члены двара прадстаўляюць у Райвыканком падзельную ўмову дзеля рэгістрацыі.

Адказ. Такія падзелы ў цяперашні час не павінны рэгістравацца, бо ўсякая рэгістрацыя Райвыканкомамі падзельных умоў прыпынена пастановай Саўнаркому ад 10 красавіка 1925 г.

Пытаньне 59. Ці заўсёды трэба прад'яўляць іск аб скасаваньні дагавору на аддачу зямлі ў працоўную арэнду, калі незаконнасьць дагавору выявілася пасьля зарэгістраваньня яго Райвыканкомам.

Адказ. У гэтым выпадку ў раённую зямельную камісію прад'яўляецца сельсаветам ці ўпаўнаважанымі зямельнаго тав-ва на падставе 58 арт. Зям. Код. іск альбо аб скасаваньні дагавору арэнды, альбо аб перадачы іску праў здатчыка ў залежнасьці ад акалічнасьцяй справы. Касуецца дагавор, калі ён быў незаконны ў момант яго заключэньня. Калі-ж правы арандатара зьяўляюцца бясспрэчнымі, а толькі здатчык ня меў права здаваць у арэнду зямлю ці страціў на яе сваё права потым, дык зямельная камісія пастановай сваёй усе яго правы па дагавору перадае істцу.

Пытаньне 60. Якія вынікі ўзьнікаюць, калі стораны зробяць умову на здачу зямлі ў працоўную арэнду без зарэгістраваньня дагавору ў Райвыканкоме.

Адказ. Незарэгістраваны ў належным парадку дагавор працоўнае арэнды зямлі лічыцца нядзейным. У гэтым разе для дагаворных старон узьнікаюць вынікі, якія прадугледжаны 58 арт. Зям. Код.

Пытаньне 61. Ці можа грамадзянін прад'явіць іск да ўрадавай установы аб звароце зямлі, якую ўстанова ў адміністрацыйным парадку ад яго адабрала.

Адказ. Арт. 25 Зям. Код. ужываецца і ў тых выпадках, калі парушэньне землякарыстаньня зроблена зямельнымі органамі альбо іншымі ўстановамі. Прад'ўлены да ўрадавай установы іск аб звароце захопленай зямлі разглядаецца ў агульным парадку акруговаю зямельнаю камісіяй.

# КРАЯЗНАЎСТВА

## Па ільнаводных вёсках БССР.

У сярэдзіне ліпеня я аб'ехаў некалькі вёсак Віцебшчыны, Полаччыны і Аршаншчыны.

У той час гарачыня стаяла надзвычайная (да 31° С.). Дажджу ня было ўжо месяц, а месцамі і больш. Заходняя Дзьвіна так абмялела, што параходы не хадзілі ад Віцебску да Полацку і нават далей Полацку.

Шмат ярыны выгарала, а ў тым ліку і лёну (асабліва познага севу).

Тут будзе гутарка толькі аб пасевах лёну.

Трэба сказаць, што ільны Аршаншчыны больш нізкарослыя і галавістыя, чым ільны Віцебшчыны і Полаччыны. У Аршаншчыне сеюць ільну менш, чым у Віцебшчыне і Полаччыне; затым сеюць усё ў адзін тэрмін, стала быць, раней чым у Віцебшчыне і Полаччыне, дзе часта адзін гаспадар сее два, тры разы.

Вось чаму ільны Аршаншчыны, ня гледзячы на засуху, былі больш роўнымі, хоць гатунак іх наогул ніжэйшы. Аршанскія ільны у той час ужо часткаю пасьпелі і іх ужо прыбіралі.

Трэба адзначыць і добры спосаб прыборкі ў гэтым раёне: выбраны лён яны ня вяжуць у снапы зараз-жа, а жменькамі расьцілаюць на полі для прасушкі на 2-3 дні. За гэты час сьвежыя сьцяблы ўзмацуюцца і тады ўжо сьмела можна вязаць снапы.

У Віцебшчыне і Полаччыне шмат позных ільноў прапала. Наогул, там ільняныя палеткі выглядаюць больш маладымі, тут лён толькі зацьвітае. Але пападаюцца і добрыя ільны, бо тут ёсьць старыя вопытныя ільнаводы.

Вось ільнавод Багданаў з Варшаўкі, Лёзьнянскага раёну (Віцеб. акр). Ён летась і сёлета пасеяў па 3 пуды (каля 1-2 дзес.) лёну. Гэты гаспадар кажа, што ад лёну большы даход, чым ад іншых расьлін, ня гледзячы нават на зьніжаныя цэны на валакно. Насеньне ён завёў сапраўды даўгунцовае, бо нічым ня розьніцца ад прывознага насеньня даўгунцу, якога даў яму на спробу аграном. Багданаў мае канюшыну і пасеяў кармовых буракоў. Дрэнна толькі тое, што Лёзьнянскі с-г. коопэратыў распаўсюджваў маладое, малаўсхожае (49-69 проц). насеньне канюшыны і ільну.

Другі ільнавод Канстантынаў (Лёзьнянскі раён, Унаўскі с-с, вёска Ляховік) сеяў як летась, так і сёлета па 5 пудоў лёну, бо яму трэба выплачваць даўгі. Пасеяць-жа бульбу на продаж, трэба мець шмат гною і насеньне бульбы даражэй абходзіцца.

Ільнавод Лаўрыновіч (Полацкая акруга, Асьвейскі раён і сельсавет), мае правільны штампольны севазварот і адно поле ($1^1/_2$) дзес.) заўсёды занята лёнам. Лён сее па канюшынішчу, на дзесяціну высявае 7 пудоў, а не 4,5—5 пудоў, як другія. У яго лен заўсёды родзіць. На базары за яго лён заўсёды даюць вышэйшую цану, якая стаіць у той час.

Некаторыя кажуць, што лён надта зьнясіляе глебу. Гэта праўдзіва ў выпадках, калі няправільна займацца ільном, што мае аднолькавае

значэньне і для іншых расьлін. А вось Лаўрыновіч пасьля лёну сее авёс, і авёс расьце вельмі буйны. Селянін Пудаў з той-жа мясцовасьці пасьля лёну пасеяў пшаніцу. Была добрая пшаніца, ростам з чалавека.

Пудаў насеньня даўгунца калісь дастаў яшчэ з суседняга маёнтку і з таго часу добра яго захоўвае і надта ім здаволены. Праўдзіва, ёсьць чым здавальняцца, бо лён вельмі добры, а сёлета будзе яшчэ лепшы, чым летась. Летась ён сеяў ільну 10 п., а сёлета 13½ п., гэта 2½ дзесяц.

Пудаў ня толькі добра даглядае лён ў полі, але пільна сачыць і за яго добраю апрацоўкаю. Ён сам змайстраваў драўляную трох вальцовую ільнамялку і паставіў да яе прывод. Яго ільнамялкаю карыстаюцца (за плату) і суседзі, якія вазамі прывозяць да Пудава сваю трэсту, сушаць у яго ёўні і затым мнуць на мэханічнай ільнамялцы. Праца выходзіць лёгка і хутка, а вядома-ж, што гэта самая цяжкая праца.

Вось назаву яшчэ Штэйна (Асьвейскага раёну). Летась ён сеяў лёну 4½ дзес., а сёлета 6½ дзес. Павялічыў за лік незанятага ўвосень поля пад жыта. У Полацкай акрузе шмат хто ня мог засеяць жыта ўвосень затым, што былі дажджы.

Штэйн дастаў насеньне даўгунцу ў Рызе ў 1911 годзе, куды наўмысьле за ім сам езьдзіў і потым шмат каму з суседзяў даў прывознага насеньня. За правільнае вядзеньне ільнаводнай гаспадаркі на выстаўцы у 1913 годзе Падзёрскі зямляробны гурток выдаў Штэйну пачэсны ліст*).

Па палажэньню аб культурных гаспадарках няма ў ліку адзнак іх правільнага ільнаводзтва. Гэта пытаньне павінна быць чарговым для дапаўненьня палажэньня, бо трэба захоўваць і старыя культурныя ільнаводныя гаспадаркі.

Што належыць да зьмены пасеўнае плошчы лёну, то на гэта пытаньне можна адказаць лічбамі статыстыкі (папярэднія падрахункі веснавога 10 проц. абсьледаваньня)

Па Віцебшчыне, Магілёўшчыне і Аршаншчыне, як і трэба было чакаць, з прычыны нізкіх цэн, маем памяншэньне плошчы пад ільном супроць леташняга году на 8 проц.; па Полаччыне сёлета маем павялічэньне з 13166 на 14940 дзес., гэта на 14 проц. Павялічэньне можна тлумачыць дажджлівай восеньню 1925 г., калі часта прызначаны пад жыта плошчы былі заняты лёнам. Па ўсёй БССР маем зьмену плошчы пад лёнам з 98522 на 100257 дзес. (2 проц.).

Аб дапамозе ільнаводнай вёсцы з боку земорганаў, трэба сказаць, што яна была невялікай і выпадковай. Галоўнымі прычынамі трэба назваць адсутнасьць спэцыялістых па ільнаводзтву на акругах і сродкаў на мэрапрыемствы спэцыяльна па ільнаводзтву. Закладзеныя-ж палявыя вопыты трэба лічыць выпадковымі, як і іх распаўсюджваньне ў той ці іншай акрузе.

З грамадзкіх установ прымалі ўдзел у дапамозе ільнаводнай вёсцы с-г. коопэрацыя і дзяржаўная загатоўчая організацыя „Лёнагандаль“. Яны штогодна завозяць у БССР насеньне пскоўскага і вяцкага даўгунцу, а „Лёнагандаль“, акрамя таго, трымаў спэцыялістага агранома і бясколштна распаўсюджваў сярод сялян папулярную літаратуру па ільнаводзтву. Праз 2 гады сяляне (той-жа раён, Унаўскі С-с.) паўтараюць вычытаныя і чутыя правілы, якія трэба ўвесьці для палепшаньня апрацоўкі лёну. Тут трэба праця гэтае працы і закладка спэцыяльных вопытаў.

**А. Шатэрнік.**

---

*) Цяпер зямлю гаспадаркі Штэйна будуць абразаць.

# Зьмест № 1—12 часопісі „Плуг“.

## Зямельная і с.-г. політыка.

Чарговыя пытаньні с.-г. і зямельнай політыкі—№ 2—**Зьм. Прышчэпаў**. У якім кірунку праводзіць працу па пасеўнай кампаніі—№ 3.—**Зьм. Прышчэпаў**. С.-г. будаўніцтва пасьля Кастрычніка—№ 11.—**Зьм. Прышчэпаў**. Да пытаньня аб перасяленьні—№ 12. **П. Бойка**.

## Дзяржаўная дапамога вёсцы.

Агропрапаганда ў вёсцы—№ 1 **І. Ц.** Галоўныя задачы пропаганды—№ 1 **Б. Бабіцкі**. Парадзінскія сел.-гасп. курсы—№ 1 **Л. Калер**. Крэдытовы плян Белсельбанку на другую чвэрць 1925-26 г.—№ 1 **М. Перальман**. Аб выніках працы агрономаў за 1924-25 г.—№ 2. **Міхайлаў**. Больш увагі раённым с.-г. саветам—№ 2 Агр. **Павілішын**. Праца агрономаў вясною—№ 3 **А. Міхайлаў**. Насенная справа ў гэтым годзе—№ 3. **М. Еўдакімаў**. Падрыхтоўка цэнтральнага с.-г. складу да веснавой кампаніі—№ 3 **Бахір**. Паглыбленьне працы сялян-культурнікаў — № 4 **Т.** Як працуе с.-г. гурток в. Хватаўкі — № 5 **І. Туркін**. Руднянскія 2-х тыднёвыя с.-г. курсы—№ 5. **С. Сялюкін**. Рагайлаўскія 2-х тыднёвыя с.-г. курсы—№ 5 Агр. **Калер**. Вёскі дзе заведзена шматпольле—№ 6 **П. Заяц**. Што трэба судзіць нарсуду, а што зямельнай камісіі—№ 6 **Вішнеўскі**. Чаму навучыў „Плуг“—№ 6. Сел. **С. Сялюкін**. Як будуецца новая вёска ў Калінінпічыне і Магілеўшчыне — № 7. **А. Міхайлаў**. Трэба вучыцца працаваць у селяніна вёскі Лёхава С. Сялюкіна—№ 7 Сел. **Сялюкін**. Гаспадарка селяніна-латыша Аўгуста-Вендта—№ 7 Сел. **С. Сялюкін**. Як лепш пашыраць сельска-гаспадарчую кнігу—№ 7 **С. Тупяневіч**. Праца Сялян-дасьледчыкаў увосень—№ 8. Двухтыднёвыя мэліорацыйныя курсы ў бабруйшчыне—№ 8 **М. Тарасенка**. Дзедаўскае мэліорацыйнае т-ва—№ 8 **С. Сялюкін** Дасягненьні ў працы Дзераўцоўска-Паплаўскага мэліорацыйнага т-ва — **№ 8. С. Комлік**. Патрэбна увязка плянаў працы па агропрапагандзе—№ 8 **П. Гавака**. Да асеньняй пасеўнай кампаніі—№ 8 **М. Еўдакімаў**. Як лепш праводзіць сельска-гаспадарчыя выстаўкі—№ 9. Капыльскі с.-г. гурток —№ 9 **П. Яцэвіч**. Некалькі слоў аб культурнай гаспадарцы Фатынь — № 9 **Плаўскі**. Дасягненьні Кастрычнікавага мэліорац. т-ва—№ 9 Сел. **М. Карунчык**. Гаспадарка братоў Сенькаў—№ 9 Сел. **Сенька**. Юбілей 5-ай гадавіны Беларускага Дзяржаўнага Унівэрсытэту—№ 10 **М. Вайткевіч**. Па Случчыне ў восень—№ 10 **С. Т.** Палявая гаспадарка Папернянскай школы—№ 10 Сел. **Д. А. Бярозавік**. Колектывы Беларусі, як форма буйнай сельскай гаспадаркі—№ 10 **І. Стралкоў**. Пасадка лесу селянінам І. Д. Андросавым на сваім хутары—№ 10 Лесав. **В. Пашын**. Ураджай на балоце Кастрычнікавага мэліорац. т-ва—№ 11 Сел. **М. Карунчык**. Першы раз жалезны конь на балоце—№ 11 Сел. **К.** Як праходзілі с.-г. выстаўкі ў 1926 г.—№ 11 **С. Т.** 3-я раённая с.-г. выстаўка ў гор. Мсьціславе—№ 11 **І. К.** С.-г. выстаўка ўПадблоні—№ 11 Сел. **А. Карнейчык**. Сьвята ўраджаю ў Горках—№ 11 **Сяргейчык**. Другі падыход да с.-г. выставак—№ 11 **А. Зорскі**. Што пісалі пра „Дзень ураджаю“ і с.-г. выстаўкі ў газэтах—№ 11. Яшчэ аб выніках Кастрычнікавага мэліорацыйнага т-ва—№ 11 **Дз. Пракапенка**.

## Палявая гаспадарка.

Чатырохпалёвы севазварот—№ 1 **П. Ляневіч**. Аб палепшаньні балот—№ 1 **А. Шохар**. Як у адно лета зьняць 3 ўраджаі або атрымаць 5 тыс. руб. за 1 дзес.—№ 2 Сел. **Апет**. Сартовае насеньне Беларусі—№ 2 **Савіцкі**. Аб сартох канюшыны—№ 2. **Я. Мароз**. Аб шматпольлі ў 1925 г.—№ 2 **Заяц**. Аб даходнасьці расьлін—№ 2 **У. Шыцькоўскі**. Торф, як подсьціл для жывёлы—№ 2 **У. Пісараў**. Хаваньне гною пры вывазе—№ 2 Сел. **Карнейчык**. Да шляхоў разьвіцьця садоўніцтва ў Беларусі—№ 2 **Р. Гуржы**. Беларускі вулей—№ 2 Сел. **Бабейка**. Зернаед (зернавы слонік)—№ 2 **Сяргеева-Булаўка**. У якім кірунку праводзіць працу па пасеўнай кампаніі—№ 3 **Зьм. Прышчэпаў**. Каліфосфатныя ўгнаеньні на балотах—№ 3 **А. Шохар**. Ачыстка насеньня—№ 3 **А. Савельеў**. Заячая канюшына—№ 3 Агрон. **Хаустовіч**. Зьбірайце попел—№ 3 **А. Калер**. Аб угнаеньні поля на Беларусі—№ 3 **П. Трус**. Аб палявых севазваротах—№ 3 **Фурс**. Сучасныя рыначныя ўмовы сельскай гаспадаркі БССР—№ 3 **У. Шыцькоўскі**. Сейце каноплі на тарфяніках—№ 4 **А. Берзін**. Сейце каноплі і фасолю на балоце — **№ 4 А. Шохер**. Цікавая расьліна сэрадэля—№ 4 Агр. **Уліцін**. Карыстайцеся попелам, як угнаеньнем—№ 4 **Л. Ка-**

лер. Трэба скарыстоўваць начное золата, як угнаеньне—№ 4 **Г. Шасьцітка**. Карысьць мінэральных угнаеньняў пад авёс — № 4 **І. Белакурскі**. Калі лепш сеяць ярыну—№ 4 **А. Савельеў**. Сейце ачышчаным насеньнем — № 4 Сел. **У. Карнейчык**. Сейце больш бульбы—№ 4 Сел. **А. Карнейчык**. Трэб змагацца з бязкорміцай—№ 5 **Сьц. Тупяневіч**. Выка—аўсяная мешаніна—№ 5 **А. Шохар**. Пашырайце засеў караньплодаў—№ 5 **А. Казлоўскі**. Дзе і як сеяць караньплоды—№ 4 **А. Савельеў**. Кармовая морква—№ 5 Агрон. **Хаустовіч**. Досьледы з канюшынай Турскай дасьледчай станцыі—№ 5 **Б. Бабіцкі**. Займайце папар—№ 5 **А. Дземіdовіч**. Сялянскі і заняты папар—№ 5 Сел. **У. Карнейчык**. Як выгадней выкарыстаць выганы і выпасы на полі—№ 5 **С. Кот**. Якую мы абралі шасьціпалёўку—№ 6 Сел. **М. Тарасенка**. Выраб раньняга папару—№ 6 Сел. **У. Карнейчык**. Здымайце два ўраджаі ў адно лета—№ 6 **С. Тупяневіч**. Як Сяляне Бабруйшчыны сеюць канюшыну—№ 6 **Б. Бабіцкі**. Як здабываць дармавое ўгнаеньне—№ 6 Сел. **Т. Апет**. Як пасевам шкодзяць мушкі—№ 6 **Б. Бранцаў**. Гадуйце насеньне чырвонае канюшыны —№ 6 Сел. **У. Карнейчык**. Сейце лубін у аржоньні—№ 7 **М. С.** Як падрыхтаваць аржоньне пад бульбу—№ 7 Сел. **А. Карнейчык**. Карыстайцеся фосфарытам, як угнаеньнем—№ 7 **Дз. Пракапенка**. Вывазка і заворваньне гною на папар—№ 7 **А. Карнейчык**. Падвойны пяцёхпалёвы севазварот — № 7 Сел. **Янка Карзон**. Пшаніца-зімка расьце добра — № 8 **З. Бульбянік**. Зьністажайце сарнякі на полі — будзе большы ўраджай — № 8 **Е. Вэйс**. Як і калі араць на зіму — № 8 **У. Карнейчык**. Час севу траў пры беспакроўным асеньнім лушчэньні балот—№ 8 **А. Шохар**. Баранеце пасевы ад зімовага чарвяка—№ 9 **С. Багдашыч**. Вапна — неабходнае ўгнаеньне для садоў — № 9 Агрон. **І. Крупень**. Не раскідайце гнілой бульбы на полі — № 9 Сел. **А. Карнейчык**. Догляд за с.-г. машынамі і прыладамі — № 9 Сел. **Я. С.** Зьнішчайце мышэй і пацукоў—№ 9 **Е. Яцэнткоўская**. Як пазбавіцца ад мышэй—№ 9 Сел. **А. Карнейчык**. Аб тарфяным угнаеньні поля—№ 10 **С. Комлік**. Якую я маю выгаду ад тарфяной падсьцілкі — № 10 Сел. **К. Запольскі**. Асеньняя апрацоўка гароду — № 10 **А. Карнейчык**. Калійнае ўгнаеньне—багацьце СССР — № 11 **С. Тупяневіч**. Вопыт з пасевамі бульбы на балоце—№ 11. **А. Шохар**. Лубін у пасевах Новазыбкаўскай дасьледч. с.-г. станцыі за 1926 г.—№ 11. Два ўраджаі—№ 11 **Т. Апет**. Аб занятым папары—№ 11 **Б. Шымковіч**. Да пытаньня аб насеньні караньплодаў—№ 12 **П. Ляневіч**. Суданская трава—№ 12. **А. Дзяміdовіч**.

## Сялянскі досьлед.

Калі хачаш мець добрую гародніну—рабі парнікі—№ 2 Сел. **Карнейчык**. Беларускі вулей—№ 12 Сел. **Бабейка**. Як высушыць склеп—№ 2 Сел. **Карнейчык**. Што можа даць папар—№ 2 Сел. **П. Чыкун**. Падрыхтоўка да сялянскага досьледу—№ 3 **С. Тупяневич**. Вопыты—лепшы агітатар—№ 3 Сел. **М. Тарасенка**. Мая практыка з мінэральным угнаеньнем—№ 3 Сел. **І. Гарбач**. Аб сэрадэлі—№ 3 Сел **А. Карнейчык**. Сёлета маем сваё насеньне канюшыны—№ 3 Сел. **М. Тарасенка**. Як сяляне Рафановіч і Лін аб'ядналі свае гаспадаркі—№ 3 Агр. **Трызна**. Што можа даць мінэральнае ўгнаеньне—№ 5 Сел. **Б. Шымковіч**. Вопыт з попелам—№ 4 **Я. Смірноў**. Як палепшыць вартасьць гною—№ 4 Сел. **Т. Апет**. Пасевы кармовых буракоў насеньнем і расадай—№ 4 Сел. **Б. Шымковіч**. Баранаваньне жыта вясною—№ 4 Сел. **А. Карнейчык**. Досьлед з турнэпсам—№ 5 Наст. **Л. Чалоўскі**. Як мы завялі канюшыну — № 5 Сел. **Я. Савіцкі**. Як атрымаць 90 пуд. выкавага сена з $^1/_4$ дзес. — № 5 Сел. **А. Карнейчык**. Як зьнішчыць сарнякі—№ 5 Сел. **Я. Савіцкі**. Трэба разводзіць лепшае насеньне—№ 5 Сел. **Бульбянік**. Якую карысьць я маю ад балота—№ 5 Сел. **С. Сялюкін**. Як асыпаць бульбу—№ 6 Сел. **С. Сялюкін**. Умей скарыстаць кожны кавалак зямлі ў садзе—№ 6 Сел. **С. Сялюкін**. Як зьвёў я сажу—№ 6 Сел. **Савіцкі**. Не пасеце каровы рана на сенажаці вясною—№ 6 Сел. **С. Савіцкі**. Мой досьлед з угнаеньнем пад бульбу—№ 7 Наст. **Л. Чалоўскі**. Ары папар рана з вясны—будзеш з ураджаем—№ 7 Сел. **Я. М. Савіцкі**. Досьлед з канюшынай—№ 7 **Б. Шымковіч**. Як захаваць на зіму лубін—№ 8. **З. Бульбянік**. Як здабыць торф зімою—№ 8 **Запольскі**. Праца сялян-дасьледчыкаў увосень—№ 8. Лён даўгунец—№ 8 **Я. Мароз**. Выка ў папары ня зьніжае ўраджаю жыта—№ 8 Сел. **А. Зорскі**. Як я навучыўся сеяць караньплоды—№ 8 Сел. **Судакоў**. Што далі селяніну купіны—№ 8 Сел. **Г. Шасьцітка**. Сілос—№ 8 **Т. Апет**. Як пачаў гаспадарыць селянін Янка Судак—№ 8 **Я. Судак**. Гаспадарка селяніна Яна Рэйзьнека—№ 8 **С. Сялюкін**. Гаспадарка селяніна Паўлы Ажгірэя—№ 8 Сел. **А. Карнейчык**. Чым трэба засеяць 1 дзес. пахаці, каб замяніць 980 п. сена—№ 9 Сел. **Я. Судак**. Што дала праца паказальнага вучастку—№ 9 **С. Комлік**. Пяткускае жыта дало ўраджай сам-дзесяць—№ 9 **Г. Шасьцітка**. Выгада сеяць лубін пад бульбу—№ 9 Сел. **К. Запольскі**. Засевы канюшыны—№ 9. Досьлед з угнаеньнем сенажаці—№ 9 Селянін **І. Гарбач**. Палепшаньне сенажаці бульбоўнікам—№ 9 **П. Тарапашка**. Як палепшыць запушчаную сенажаць—№ 9 Сел. **Я. Савіцкі**. Якія мы ставім вопыты—№ 9 Селянін **Ф. Крайка**. Памылкі землярабаў—№ 9 Сел. **Г. Шасьцітка**. Што можа даць морква—

№ 10 Сел. **Я. Судак**. Вопыт з бульбай—№ 10 Сел. **Карнейчык**. Што трэба рабіць, каб атрымаць вялікі ўраджай азімай пшаніцы—№ 10 Сел.-дасьл. **М. Пятроўскі**. Яшчэ адно дасягненьне—№ 10 **В. А. Паўлоўскі**. Досьлед з капустай—№ 10 **М. Васілец**. Як пасеяў я прысланую „Плугам" пшаніцу—№ 10 **А. Карнейчык**. Як я завёў насеньне канюшыны і цімафейкі—№ 11 Сел. **Зьвераў**. Як завёў я вусатую пшаніцу—№ 11 **І. Вярковіч**. Як з 1800 кв. мэтр. я атрымаў 3 п. канюшыны—№ 11 **Я. Савіцкі**. Пашырайце плошчу пад бульбу—№ 11 Сел. **Я. Судак**. Сейце караньплоды, яны пазбавяць вас ад бяскорміцы—№ 11 **Б. Шымковіч**. Досьлед з лубінам—№ 12 **Л. Чалоўскі**. Мой вопыт з мінэральным угнаеньнем пад ячмень—№ 12. Сел. **Сялюкін**. Вопыт з торфам у пасадцы бульбы—№ 12 Сел. **К. Запольскі**. Мой досьлед з турнэпсам—№ 12 Сел. **Пятроўскі**. Досьлед з селекцыйным ячменем—№ 12 Сел. **Сялюкін**. Вопыт з попелам—№ 12. Сел. **Сялюкін**. Лён, як пажніўная расьліна—№ 12 **Сялюкін**.

## Сад і гарод.

Садоўніцтва Беларусі ў канцы 1925 г.—№ 1 **К. Хабэнка**. Нашы лепшыя сарты зімовых яблык—№ 1 **М. Бурштэйн**. Да шляхоў разьвіцьця садоўніцтва ў Беларусі—№ 2 **Р. Гуржы**. Дзічка паляўка—аснова нашага садоўніцтва—№ 3. **М. Бурштэйн**. Угнаеньне садовых дрэў—№ 3 **А. Карлсон**. Барацьба са шкоднікамі ў садзе і гародзе вясною—№ 3 **З. Сяргеева-Булаўка**. Хто абараняе сады—№ 3 **П. Фірсаў**. Парады па гародніцтву—№ 3 **К. Хабэнка**. Садзеце групавыя сады—№ 4 **Р. Гуржы**. Гадуйце гароднае насеньне—№ 4 **М. Бурштэйн**. Вучыся гадаваць добрыя гуркі—№ 4 Сел. **Т. Апет**. Беларуская белакачанная капуста—найлепшы сорт у нашых умовах—№ 4 Сел. **Я. Мароз**. Як гадаваць памідоры—№ 4 **М. Коканаў**. Перасадка дарослых пладовых дрэў—№ 5 **А. Карлсон**. Як сеяць і ўзрашчываць насеньне гародных расьлін—№ 5 **Г. Крупень**. Некаторыя назіраньні за ростам гуркоў—№ 5 **М. Бурштэйн**. Разводзьце суніцу—№ 5. **Д. Новікаў**. Садоўніцтву ня страшна сухая вясна—№ 6 **М. Бурштэйн**. Ці ня многа антонаўкі мы садзім—№ 6 **Садавод**. Не спазьнецеся пасадзіць садовай буйнаплоднай сінуцы—№ 7 **М. Бурштэйн**. Савецкая садовая гаспадарка Лютня—№ 7 **А. Калер**. Абсьледаваньне садоўніцтва Мсьціслаўшчыны—№ 7 **М. Карлсон**. Правільна закладайце маладыя сады—№ 8 **М. Бурштэйн**. Як пасадзіць малады сад—№ 8 **Ф. Старавойтава**. Ліст з Мазыршчыны—№ 8 **А. Сіцько**. Трэба самому вырашчваць дрэвы для саду—№ 8 Сел. **С. Сялюкін**. Час высадкі дзічак і пладовых дрэў—№ 9 **М. Бурштэйн**. Пасеў насеньня пладовых дрэў—№ 9 **Р. Гуржы**. Як перахоўваць ігрушы і яблыкі—№ 9 **Дз. Пракапенка**. Хаваньне ігруш і яблык на зіму—№ 9 Сел. **А. Карнейчык**. Калі лепш садзіць сад—вясною ці ўвосень—№ 10 **Я. К. Мароз**. Зайцы і мышы—шкоднікі садоў і пладовых выхавальнікаў і барацьба з імі—№ 10 **М. Т. Конанаў**. Як усьцерагчы малады сад зімой ад мышэй—№ 10 Сел. **К. Запольскі**. На працы ў дасьледчым выхавальніку Мічурына І. У.—№ 10 **Ф. Старавойтова**. Выраб пладовага віна ў саўхозе Забалацьце—№ 10 **Р. Гуржы**. Даходнасьць сялянскага гародніцтва—№ 11 **С. Такмачоў**. Тэхніка садоўніцтва ў гасп. Лучкі А. Сіцько—№ 11 **М. Бурштэйн**. Культура дзічак у Лютні—№ 11 **Л. Калер**. Колькі мёду зьядаюць пчолы за зіму—№ 11 **С. Шчарбовіч**. Нашы сады (вынікі абсьледваньня)—№ 12 Студ. **А. Влашынскі**. Значэньне апылкаваньня ў пладовых дрэў—№ 12 **М. Бурштэйн**. Карысьць сеяць капусту ў палявым кліне—№ 12 Сел. **Запольскі**. Як зрабіць жывую абгародку—№ 12 Сел. **А. Карнейчык**.

## Пчалярства.

Як організаваць пчалярную гаспадарку—№ 1 **Г. Фэдарака**. Догляд за пчоламі ў беларускім вульлі—№ 3 Сел.-пчаляр **Бабейка**. Пчалярства Беларусі ў 1925 г.—№ 3 **Ганжын**. Рамовы вулей павялічвае даход пасекі—№ 4 Агрон. **Буеўскі**. Як перагнаць пчол з калоды ў рамовы вулей—№ 4 (гутарка дзядзькі **Грышкі**). Парады па пчалярству—№ 5 **П. Санько**. Як вядуць пчалярства браты Рагалевічы—№ 6 **П. Ляневіч**. Што піша аб пчэльніку Рагалевічаў інструктар на пчалярству—№ 6 **Л. Гаховіч**. Ад чаго гінуць у нас пчолы зімою—№ 10 **Л. Гаховіч**.

## Жывёлагадоўля.

Досьледы па карменьні кароў—№ 1 **Б. Бабіцкі**. Заразьлівыя хваробы ў птушак—№ 1 **І. Серада**. Пакінем карміць замежную скаціну макухай—№ 1 Агрон. **Уліцін**. Догляд цельнае каровы—№ 2 **С. Журык**. Хваробы ў авечак—№ 2 **Серада**. Добры вытворнік—палавіна пароды—№ 3 **К. Паніна**. Выбірайце на завод добрых цялят—№ 3 Сел. **А. Карнейчык**. Як быць з бяскорміцай—№ 3 Сел. **М. Тарасенка**. Чаго варта сялянская малочная скаціна—№ 4 **Б. Бабіцкі**. Дзе і як пасьвіць скаціну вясною—№ 4 Сел. **А. Карнейчык**. Паляпшайце сваіх кароў—№ 5 **Пашынін**. Гадоўля авечак—№ 5 Сел. **С. Сялюкін**. Як дрэнную карову я зрабіў малочнай і даходнай—№ 6 Сел. **Судакоў**. Умелае даеньне павялічвае ўдоі малака—№ 6 **Ю. Лутц**. Якія маюцца палепшаньні ў жывёлагадоўлі—№ 7. Як усьцерагчы гусянят, каб ня дохлі—№ 7 Селянін **Я. Альховік**. Праз насеннаводзтва да жывёлаводзтва—№ 7 Сел. **М.** На артыкул Тара-

## Лясная гаспадарка.



## Земляўпарадкаваньне.



## Коопэрацыя.



## Краязнаўства.



## Абарона краіны і сельская гаспадарка.



## Агульны аддзел.



Адк. рэд. **Зьм. Прышчэпаў.**

**Выданьне Наркамзему.**

Рэд. кол. { *Э. Русецкі, Шукевіч, А. Смоліч, С. Тупяневіч.*